Беларуская
АЗІЦЯЧАЯ
энцыклапедыя

# Францыск Скарына



## Чалавек-легенда




Алесь СУША

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

У 3 частках

Частка 3

## Чалавек-легенда

Мінск
"Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі"
2016

УДК 087.5:[94(476)+929Скарына](035)
ББК 63.3(4Беи)я2
С91

Серыя заснавана ў 2015 годзе

Матэрыялы выдання падрыхтаваны сумесна
з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі

**Суша, А.А.**

С91 Францыск Скарына. У 3 ч. Ч. 3. Чалавек-легенда : для сярэд. і ст. шк. ўзросту / Алесь Суша. — Мінск : Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2016. — 112 с. : іл. — (Беларуская дзіцячая энцыклапедыя).

ISBN 978-985-11-0936-0.

Кніга серыі "Беларуская дзіцячая энцыклапедыя" прысвечана беларускаму першадрукару Францыску Скарыну, які з'яўляецца, несумненна, самым яркім і найбольш вядомым творцам беларускай культуры, здольным прадставіць яе ва ўсёй шматграннасці і паўнаце. Гэта сапраўды чалавек-энцыклапедыя і чалавек-легенда. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што Францыск Скарына з'яўляецца самым яркім і найбольш вядомым дзеячам беларускай культуры, найбольш вядомым прадстаўніком эпохі Адраджэння ў Беларусі, талент якога праявіўся літаральна ва ўсім. Менавіта ён уключыў на 500 гадоў кнігу ў культурную прастору і паўсядзённае жыццё беларусаў. Францыск Скарына першым з усходніх славян выдаў кнігу друкарскім спосабам і зрабіў кніжнае слова, а праз яго і ўсе веды чалавецтва даступнымі для ўсіх і кожнага. Кніга прызначана для дзяцей сярэдняга і старшага школьнага ўзросту, а таксама для ўсіх, хто цікавіцца багатай гісторыяй нашай краіны.

**УДК 087.5:[94(476)+929Скарына](035)**
**ББК 63.3(4Беи)я2**

**ISBN 978-985-11-0936-0 (ч. 3)**
**ISBN 978-985-11-0902-5**

# УВОДЗІНЫ

Францыск Скарына — самы яркі і найбольш вядомы дзеяч беларускай культуры і найбольш вядомы прадстаўнік эпохі Адраджэння ў Беларусі. Менавіта ён 500 гадоў таму ўключыў кнігу ў культурную прастору і паўсядзённае жыццё беларусаў. Менавіта ён першы з усходніх славян выдаў кнігу друкарскім спосабам і зрабіў кніжнае слова, а праз яго і ўсе веды чалавецтва даступнымі для ўсіх. Асновай, на якой стваралася беларускае кнігадрукаванне, стала рукапісная кніга. Да 17 стагоддзя большасць твораў мастацкай літаратуры, навуковых прац, рэлігійнай літаратуры пісаліся і пашыраліся ў рукапісах. Якраз у часы Скарыны адбывалася вельмі важная падзея — спроба сабраць у адной рукапіснай кнізе ўсе часткі Бібліі ў перакладзе на царкоўнаславянскую мову. На пераклад Бібліі, зроблены Францыскам Скарынам, мела вялікі ўплыў рукапісная традыцыя Вялікага Княства Літоўскага. Сапраўдным прарывам у гісторыі цывілізацыі лічыцца вынаходства кнігадруку, гісторыя якога бярэ пачатак яшчэ ў культуры Старажытнага Усходу. Развіццё еўрапейскага кнігадрукавання звязана з імем Ёгана Гутэнберга і яго паслядоўнікаў, якія яшчэ ў сярэдзіне 15 стагоддзя пачалі выпускаць кнігі ў тым выглядзе, які мы ведаем сёння. Першы вопыт кірылічнага кнігадрукавання звязаны з дзейнасцю жыхара Кракава Швайпольта Фіёля. На працягу апошніх дзесяцігоддзяў 15 стагоддзя друкарства пашырылася практычна па ўсёй Заходняй і Цэнтральнай Еўропе, дзе многія гарады ператварыліся ў сапраўдныя кнігавыдавецкія цэнтры.

Першая беларуская кніга выйшла ў сталіцы Чэхіі Празе, якая мела на той час сталыя, амаль паўвекавыя друкарскія традыцыі. Вельмі важна і тое, што ў Чэхіі ў часы Скарыны ўжо існавала развітая мастацкая традыцыя вырабу гравюр, якімі аздабляліся многія выданні. Першай беларускай кнігай стаў Псалтыр, які пабачыў свет 6 жніўня 1517 года і лічыцца адной з найбольш папулярных і распаўсюджаных у хрысціянстве кніг Бібліі. Пры гэтым выданне Скарыны вылучаецца наватарскім характарам, уключае ўласныя прадмовы і пасляслоўі, якія напісаны не на царкоўнаславянскай, а на старабеларускай мове. Першая кніга Скарыны адкрыла сабой цэлую серыю біблейскіх выданняў, якія ён падрыхтаваў і выпусціў у 1517—1519 гадах, і азнаменавала пачатак усяго беларускага кнігадрукавання. Важным дасягненнм беларускага першадрукара стала цудоўная мастацкая аздоба яго кніг — гравюры, застаўкі, канцоўкі, ініцыялы. Выданні Францыска Скарыны спрыялі ўмацаванню хрысціянскіх асноў жыцця беларускага народа. Яны таксама распаўсюджваліся ў Расіі, Украіне, Літве, Польшчы і іншых славянскіх краінах, а часам траплялі ў вельмі аддаленыя дзяржавы. Сёння спадчына вялікага асветніка з Полацка лічыцца нашым нацыянальным скарбам.



# РУКАПІСНАЯ КНІГА

Беларусь — гэта не толькі краіна замкаў, не толькі край, дзе цудоўна захавалася народная песенная і танцавальная традыцыя, дзе дасягнула росквіту рыцарская, гарадская і манастырская культура. Беларусь — гэта яшчэ і краіна кнігі.

Нездарма пераважная большасць вядомых культурных дзеячаў даўняй Беларусі так ці інакш звязаны з кнігай. Так, Ефрасіння Полацкая, асветніца, заснавальніца праваслаўных манастыроў у старажытным Полацку, якая стала адной з першых усходнеславянскіх святых, асабіста займалася перапісваннем кніг. Кіры-

*Цэра і пісалы (прылады для пісьма 11–14 стагоддзяў)*



*Французская мініяцюра 14 стагоддзя з выявай працэсу напісання рукапісу*



ла Тураўскі, якога лічаць найярчэйшым пісьменнікам Старажытнай Русі, застаўся вядомым для наступных пакаленняў дзякуючы багатай творчай спадчыне, што зафіксавана на старонках многіх рукапісных і друкаваных кніг. Найбольш вядомым прадстаўніком эпохі Адраджэння ў Беларусі з'яўляецца, безумоўна, Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, які зрабіў друкаванае слова даступным для ўсяго грамадства, "людзей паспалітых". Урэшце фактычна ўсе прадстаўнікі "новага беларускага адраджэння" пачатку 20 стагоддзя — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Цішка Гартны, Алесь Гарун і многія іншыя — нязменна асацыіруюцца з кнігай.

Выключная роля кнігі ў развіцці беларускага грамадства замацавана шматвяковымі традыцыямі кніжнай культуры. У манастырскіх скрыпторыях Беларусі рукапісы перапісваліся з найдаўнейшых часоў — яшчэ з 11—12 стагоддзяў. А больш ранніх кірылічных кніг, чым кнігі 11 стагоддзя, усходнеславянскі свет не ведае. Адной з самых старажытных кніг усходніх славян з'яўляецца знакамітае Тураўскае Евангелле 11 стагоддзя — верагодна, найбольш даўні рукапіс, які захоўваўся (а, можа, і ствараўся) на землях сучаснай Беларусі і збярогся да нашага часу.

Няпросты гістарычны шлях Беларусі вызначыў характар кніжнай культуры нашых продкаў. Напрыклад, вядома, што на беларускіх землях

ВЪ ВРѢМА ОНО · ВЪНИДЕ ІСЪ · ВЪ КА
ПЕРЪНАОУМЪ · ВЪ ГРАДЪ ГАЛИЛЕ
НСКЪ · И БѢ ОУЧАѦ Ѧ ВЪ СѪБОТЫ · И ОУ
ЖАСАХѪ СѦ О УЧЕНИИ ЕГО · ѦКО СЪ
ВЛАСТИѬ БѢ СЛОВО ЕГО · И ВЪ СЪ
НЬМИЩИ БѢ ЧЛВКЪ ИМЫ ДХЪ БѢ
СЬНЪ · НЕЧИСТЪ · И ВЪЗЪПИ ГЛА
СОМЬ ВЕЛИЕМЬ ГЛѦ · ОСТАВИ · ЧТО
НАМЪ · И ТЕБѢ ІСЕ НАЗАРѦНИНЕ
ПРИШЬЛЪ ЕСИ ПОГОУБИТЪ НАСЪ · ВѢ
МЬ ТѦ · КТО ЕСИ СТЫИ БЖИИ · И ЗА
ПРѢТИ ЕМОУ ІСЪ ГЛѦ · ПРѢМЬЛЪЧИ
И ИЗИДИ ИЗ НЕГО · И ПОВЬРЪГЪ И БѢ
СЪ ПОСРЕДѢ · ИЗИДЕ ИЗ НЕГО · НИ ЧЬСО
ЖЕ НЕ ВРѢЖДЬ ЕГО · И БЫСТЬ ОУЖАСЪ
НА ВЬСѢХЪ · И СЪСТАЗААХѪ СѦ ДРОУГЪ
КЪ ДРОУГОУ ГЛЮЩЕ · ЧТО ЕСТЬ СЛО
ВО СЕ · ѦКО ВЛА…

*Тураўскае Евангелле 11 стагоддзя — найдаўнейшы беларускі рукапіс*



*В. Васняцоў. Нестар-летапісец*

здаўна пражывала вялікая колькасць прадстаўнікоў розных этнасаў і нацыянальнасцей. У выніку ў Беларусі была створана надзвычай багатая і разнастайная кніжная спадчына. Кнігі тут пісаліся на самых розных мовах — старажытнай і сучаснай беларускай, царкоўнаславянскай, рускай, польскай, нямецкай, французскай, лацінскай, італьянскай, а таксама на іўрыце, ідыш і іншых мовах. Што характэрна, рукапісныя помнікі на беларускай мове пісаліся ў розных графічных сістэмах і пры дапамозе розных алфавітаў. Сёння ў айчынных бібліятэках можна знайсці апрача вялікай колькасці беларускамоўных рукапісаў, запісаных кірыліцай, нямала дакументаў, напісаных лацінскім шрыфтам і нават арабскім алфавітам. Напрыклад, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі нядаўна былі знойдзены два літаратурныя творы 17 стагоддзя — "Прамова Мялешкі" і "Ліст да Абуховіча", напісаныя па-беларуску лацінкай. Вялікую цікавасць уяўляюць рукапісныя кітабы — свяшчэнныя кнігі беларускіх татараў, якія пісаліся па-беларуску і па-польску арабскім пісьмом.

Другой рысай старабеларускай кніжнасці быў яе поліканфесійны характар. Гэта значыць, што на беларускіх землях адначасова жылі і нават плённа ўзаемадзейнічалі прадстаўнікі розных веравызнанняў — праваслаўныя, каталікі, уніяты, пратэстанты, стараверы, іўдзеі, мусульмане... Усе яны мелі сваю пісьменнасць, стваралі кніжныя помнікі. Прычым кнігапі-

*Сярэдневяковы манах перапісвае кнігу ў скрыпторыі*

санне кожнай з гэтых канфесій не развівалася ізалявана ад іншых: усе яны існавалі разам, уплывалі і ўзаемна дапаўнялі адна адну. У выніку гэтага ўзаемаўплыву і ўзаемадзеяння і нарадзілася багацейшая рукапісная кніжнасць Беларусі, якая ў далейшым непасрэдна паўплывала і на беларускае кнігадрукаванне.

Да 17 стагоддзя большасць твораў мастацкай літаратуры і навуковых прац таксама пісалася і пашыралася ў рукапісным выглядзе. Па рукапісных кнігах вучыліся шкаляры і студэнты. Уручную перапісваліся замежныя працы і рабіліся іх пераклады. Вялікі пласт рукапіснай кніжнасці складаюць канспекты лекцый, прачытаных выкладчыкамі розных навучальных устаноў і ўважліва занатаваных студэнтамі і шкалярамі. Падобнымі да іх былі і рукапісы многіх вучоных, асобныя з якіх у далейшым выходзілі ў друкаваным выглядзе.

І ўсё ж найбольшую колькасць складалі рукапісныя кнігі, якія ўзніклі







*Старонка Лаўрышаўскага Евангелля з выявай архангела Міхаіла (14 стагоддзе)*

ў царкоўным асяроддзі і прызначаліся для выкарыстання ў храмах, манастырах, духоўных навучальных установах. Фактычна ў кожным царкоўным асяродку павінен быў прысутнічаць пэўны набор кніг. Сярод іх — шматлікія евангеллі, пролагі, служэбнікі, жыціі святых, зборнікі слоў, павучанняў, казанняў і інш. Разнастайнасць гэтых помнікаў сведчыць пра багацце духоўнага жыцця тагачаснай Беларусі, пра поліканфесійнасць беларускай культуры.

Пераважная большасць кніг рэлігійнага зместу, створаных на беларускіх землях у 16 стагоддзі, пісалася на царкоўнаславянскай мове кірылічным шрыфтам. Пры гэтым паступова павялічвалася колькасць рукапісаў, з аднаго боку, на старабеларускай мове, а з другога — польска- і лацінамоўных кніг. Што важна, старабеларуская мова фактычна яднала ўсе хрысціянскія канфесіі, бо ўсе яны ў большай ці меншай ступені ў 16 стагоддзі карысталіся гэтай мовай. Старабеларуская мова актыўна пашыралася і па-за хрысціянскімі асяродкамі: яна трапіла ў справаводства і богаслужэнне беларускіх татараў-мусульман, з'явіліся пераклады на яе з яўрэйскай мовы.

Да таго ж, нягледзячы на некаторыя адрозненні паміж цэрквамі, нярэдка адбывалася "міграцыя" рукапісаў з аднаго царкоўнага асяроддзя ў іншае. Так, прадстаўнікі адной царквы маглі карыстацца рэлігійнымі (часам нават богаслужэбнымі) кнігамі, падрыхтаванымі прадстаўнікамі іншай канфесіі. Прынамсі, усе яны цудоўна ведалі і вывучалі рэлігійную літаратуру адзін аднаго.

Сярод рэлігійнай літаратуры важнейшае месца займала "кніга кніг" — Біблія. Звычайна кнігі Бібліі (а яна складалася з некалькіх дзясяткаў кніг, якія падзяляліся на Стары і Новы Запаветы) перапісваліся асобна: адны —

часцей, а другія — радзей (у залежнасці ад іх запатрабаванасці).

Вельмі важна адзначыць, што якраз у часы Францыска Скарыны адбывалася вельмі важная падзея — спроба сабраць у адной рукапіснай кнізе ўсе часткі Бібліі ў перакладзе на царкоўнаславянскую мову. Спачатку такая спроба мела месца ў Вялікім Ноўгарадзе. Там па замове мясцовага архіепіскапа Генадзя ў канцы 15 стагоддзя была складзена так званая Генадзеўская Біблія. Трошкі пазней — у пачатку 16 стагоддзя — поўны збор біблейскіх кніг быў створаны і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Гэту працу распачалі ў Вільні ў скрыпторыі, што дзейнічаў пры двары беларуска-літоўскага праваслаўнага мітрапаліта. Найбольш вядомым майстрам-кнігапісцам, які працаваў над стварэннем гэтага зводу, быў каліграф Мацей Дзясяты. У яго гонар біблейскі спіс названы "Дзесятаглавам" Мацея Дзясятага.

Як адзначаюць даследчыкі, рукапісная традыцыя Вялікага Княства Літоўскага мела вялікі ўплыў на пераклад Бібліі, зроблены Францыскам Скарынам. З іншага боку, сувязь беларускага першадрукара з Вільняй — цэнтрам беларускага кнігапісання ў тыя гады — захоўвалася ва ўсе часы.



*"Дзесятаглаў" Мацея Дзясятага*

Нездарма і першая кніга, выдадзеная на радзіме асветніка, пабачыла свет таксама ў Вільні.

У часы Францыска Скарыны адбываецца істотнае пашырэнне рукапіснай справы ў Вялікім Княстве Літоўскім — гэта быў час уздыму беларускай культуры, звязаны з актыўным сацыяльна-эканамічным развіццём краіны. Да нашых дзён захавалася каля 40 дакладна датаваных рукапісных кодэксаў канца 15 — сярэдзіны 16 стагоддзя, напісаных мясцовымі пісцамі, у якіх змешчаны звесткі пра месца іх напісання. З гэтых звестак відавочна, што кнігі ў тыя гады перапісваліся па ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Апрача традыцыйных манастырскіх скрыпторыяў, дзе кнігі перапісваліся з найдаўнейшых часоў (найбуйнейшыя з іх былі ў Вільні, Супраслі, Жыровічах), а таксама скрыпторыяў сталічнай канцылярыі і майстэрняў пры епіскапскіх кафедрах, рукапісная справа ў 16 стагоддзі атрымала вялікае пашырэнне ў большасці буйных гарадоў Беларусі (Полацк, Навагрудак, Пінск, Брэст, Слуцк, Мінск, Кобрын і інш.), а таксама ў некаторых буйных шляхецкіх рэзідэнцыях. Па замове ці нават уласнымі сіламі асобных мяшчан былі перапісаны многія кнігі, у тым ліку і біблейскія.

Пры гэтым перапісчыкі з асаблівай павагай ставіліся да кананічных тэкстаў. Скажэнне іх зместу падчас перапісвання ўспрымалася як грэх, ерась і святатацтва. У выніку пры перапісванні часам нават капіраваліся асобныя запісы на старых кнігах, якія не мелі дачынення да арыгінальных тэкстаў, але з'явіліся пазней у працэсе бытавання кніг. У гэтым сэнсе справа Францыска Скарыны па перакладзе Бібліі і яе каментаванні выглядае вельмі наватарскай.

Рукапісныя кнігі вельмі часта звяртаюць на сябе ўвагу дзякуючы сваёй мастацкай аздобе, якая павінна была адлюстраваць змест, зрабіць яго, з аднаго боку, больш даступным і зразумелым, а з другога — больш прывабным і прыгожым. Ілюмінаваныя мініяцюры, прыгожыя буквіцы, застаўкі і канцоўкі рукапісаў дагэтуль здзіўляюць і робяць прыемнае ўражанне на ўсіх, хто іх бачыць.

Эстэтычныя функцыі выконваў і сам тэкст рукапісаў: вялікае значэнне мела яго размяшчэнне на старонцы, спалучэнне з іншымі элементамі кнігі. Так, напрыклад, заключныя фрагменты тэксту нярэдка запісваліся з паступовым скарачэннем даўжыні радка і набывалі выгляд трохвугольнікаў. Падобныя асаблівасці мы можам бачыць і ў выданнях Францыска Скарыны. Традыцыям рукапіснага мастацтва адпавядала імкненне першадрукара ўпрыгожыць свае выданні мноствам разнастайных ініцыялаў, заставак, а таксама выкарыстанне ім для друку чорнай і чырвонай фарбаў.

І ўсё ж у большай ступені мастацкая аздоба выданняў беларускага першадрукара адыходзіла ад ранейшай сярэдневяковай традыцыі афармлення візантыйскіх і старажытнабела-

рускіх рукапісаў. Гэта была ўжо новая эпоха, час новых магчымасцей. Кнігі Францыска Скарыны былі афармлены ў кантэксце еўрапейскіх рэнесансных традыцый. У сваю чаргу першыя беларускія друкаваныя кнігі пачалі ўплываць на старажытную традыцыю кнігапісання. Вядома нямала рукапісных копій Скарынавых кніг, якія былі зроблены ў 16—17 стагоддзях. Многія з іх адзін у адзін паўтараюць арыгінальныя выданні, нават ініцыялы і застаўкі. Але ёсць і такія, што адаптавалі наватарскія паводле афармлення кнігі Францыска Скарыны да традыцый старажытнага кнігапісання: павялічвалі фармат да прынятага ў праваслаўным богаслужэнні вялікага аркуша, мянялі шрыфт і арфаграфію на больш кансерватыўныя формы.

У час іх стварэння рукапісныя кнігі мелі найперш ужытковае значэнне і выкарыстоўваліся для пэўных практычных мэт. Сёння ж створаныя нашымі продкамі творы пісьменства сваю ўжытковую функцыю збольшага страцілі, але набылі вялікую каштоўнасць як помнікі культуры і з’яўляюцца нашым нацыянальным багаццем.



*Першая старонка рукапіснай копіі "Апостала" Францыска Скарыны са збораў Славянскай бібліятэкі ў Празе*





# УЗНІКНЕННЕ КНІГАДРУКАВАННЯ

Вынаходства кнігадрукавання справядліва лічыцца сапраўдным прарывам у гісторыі чалавечай цывілізацыі. Гэта адкрыццё стаіць на адным узроўні з такімі значнымі дасягненнямі, як вынаходства кола, компаса ці пораху. Хаця само па сабе кнігадрукаванне — гэта тэхналагічны працэс, яго з'яўленне прадвызначыла агульначалавечы прагрэс, акрэсліла кірунак развіцця чалавецтва на працягу апошніх некалькіх соцень гадоў.

Шлях да вынаходства друкаванага станка быў доўгім, а гісторыя стварэння друкаванай кнігі была зусім няпростай.

Друк — гэта тэхналогія размнажэння ў вялікай колькасці асобнікаў аднаго і таго ж тэксту або выявы. Ідэя друку была закладзена яшчэ ў старажытнасці, калі пачалі выкарыстоўваць кляймённе жывёлы. Прынцып штэмпелявання быў вядомы ўжо ў культуры Старажытнага Усходу, дзе пашыраўся клінапіс.

У старажытных Месапатаміі і Егіпце яшчэ за 3000 гадоў да нашай эры выкарыстоўваліся так званыя цыліндрычныя пячаткі, пры дапамозе якіх



***Вавілонская "цыліндрычная пячатка" (каля 1800 года да нашай эры)***

шляхам пракатвання рабіліся адбіткі на гліняных таблічках.

Да нашага часу захаваўся ўнікальны прыклад друкавання тэксту ў Еўропе ў перыяд бронзавага веку. Гаворка ідзе пра Фесцкі дыск, створаны на Старажытным Крыце каля 1700 года да нашай эры. На ім выява была нанесена па спіралі на гліняны дыск з дапамогай адмысловых штэмпеляў. Фактычна гэты дыск з'яўляўся першым узорам друкавання працяглага звязанага тэксту.

Наступным этапам стала чаканка манет. У Старажытным Рыме пры дапамозе штампаў з пэўным наборам тэксту рабіліся надпісы на свінцовых трубах гарадскога водаправода. Усе гэтыя дасягненні не дазвалялі пачаць друк на гнуткіх і лёгкіх матэрыялах, паколькі не існавала чарніла, якое б падыходзіла для такіх мэт.

Радзімай кнігадрукавання можна лічыць Старажытны Кітай. Найбольш старажытнымі з захаванага да нашага часу друку на тканіне з'яўляюцца выявы кветак, адціснутыя на шоўку ў тры фарбы. Яны былі выкананы ў часы дынастыі Хань (да 220 года нашай эры). З цягам часу пад уплывам будызму тэхналогія друку на тканіне ў Кітаі трансфармавалася ў друк на паперы, больш прыдатны для пашырэння рэлігійных тэкстаў.

У гэты перыяд пашыраецца тэхніка друкавання, якая сёння называецца словам "эстампаж" — гэта тэхніка атрымання непасрэднага адбітка рэльефнага малюнка. Звычайна адбітак атрымліваўся пры накладванні на плоскі каменны рэльеф злёгку ўвільготненай паперы, якую прыцiралі і прыціскалі да рэльефу, каб на паперы атрымаліся паглыбленні. Пасля гэтага на паверхню высушанай паперы наносілі вадзяную фарбу, якая збіралася ў паглыбленнях.

Наступнай (значна больш дасканалай) тэхналогіяй кнігадруку лічыцца выраб пачынаючы з 7—10 стагоддзяў так званых ксілаграфічных кніг: для



*Месапатамская "цыліндрычная пячатка" з вапняку і адбітак, зроблены з яе дапамогай*



*Фесцкі дыск*






***Трубы рымскага водаправода з тэкстам, выдрукаваным у часы імператара Веспасіяна***

друку кожнай старонкі тэксту ў іх выкарыстоўваліся асобныя драўляныя дошкі, на якіх выразаліся і тэкст, і выявы. Самым знакамітым прыкладам ксілаграфічнай кнігі з'яўляецца так званая "Дыяментавая сутра". Яна мае дакладную дату выдання — 11 мая 868 года.

Апошнім найбольш значным дасягненнем кітайскіх майстроў стала вынаходства друку пры дапамозе рухомых (наборных) элементаў, асобных для кожнага знака ці іерогліфа. Паводле легенды, вынаходства гэта здзейсніў у 11 стагоддзі каваль Бі Шэн, які пачаў друкаваць тэкст, што набіраўся з асобных абпаленых гліняных брусочкаў. Той жа Бі Шэн часам згадваецца як вынаходнік наборнай касы, у якой захоўваліся шрыфты. У 1234 годзе ў Карэі пачалі выкарыстоўваць першыя металічныя (бронзавыя) шрыфты.

У Еўропе друк на тканіне, таксама як і ў Азіі, верагодна, папярэднічаў друку на паперы і працягваў выкарыстоўвацца да 17 стагоддзя. Праз арабскі свет сюды прыйшло таксама і друкаванне на паперы пры дапамозе драўляных дошак-клішэ, якое дасягнула асаблівага пашырэння ў 15 стагоддзі. З'яўленню і роскввіту ксілаграфічнай кнігі спрыяла масавая патрэба ў папяровых грашах і ігральных картах, а таксама друкаваных абразах і папскіх індульгенцыях.

Тэхналогія вырабу ксілаграфічнай кнігі была наступнай. На драўлянай дошцы выразаліся выявы і тэкст у люстраным (перавернутым) парадку. Потым на рэльеф наносілася фарба, накладваўся аркуш паперы, які прыціскаўся і прыгладжваўся. У далейшым асобныя лісткі з выявамі склейваліся разам: спачатку ў выглядзе стужкі (скрутка), пазней яны збіраліся ў кніжку. Друк мог ажыццяўляцца як на адным баку аркуша, так і на абодвух.



***Франтыспіс "Дыяментавай сутры"***



*Кітайская наборная каса*

Адным з найбольш вядомых ксілаграфічных выданняў у Еўропе была "Біблія бедных", распаўсюджаная ў эпоху Сярэдневякоўя. Асноўная ўвага ў ёй надавалася выявам біблейскіх сцэн і персанажаў, якія суправаджаліся тлумачальнымі подпісамі. Аднак здзейсненае ў 15 стагоддзі вынаходства друкавання кніг па новай тэхналогіі (пры дапамозе рухомых літар) выцесніла ксілаграфічныя кнігі з шырокага ўжытку.



*Расфарбаваная ад рукі старонка цэльнагравіраванай "Бібліі бедных"*



*Старонка ксілаграфічнай кнігі "Апакаліпсіс" (Германія, 15 стагоддзе)*

# ЁГАН ГУТЭНБЕРГ – ЗАСНАВАЛЬНІК ЕЎРАПЕЙСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

Вынаходства кнігадрукавання ў нашай частцы свету звязана з дзейнасцю ў горадзе Майнцы нямецкага майстра Ёгана Гутэнберга, а таксама яго паслядоўнікаў — Ёгана Фуста і Поля Шофера. Менавіта яны яшчэ ў сярэдзіне 15 стагоддзя пачалі друкаваць кнігі ў тым выглядзе, які знаёмы нам сёння.



*Ёган Гутэнберг (паводле гравюры 1584 года)*

Чалавек па імені Ёган Генсфляйш цур Ладэн цум Гутэнберг нарадзіўся ў канцы 14 стагоддзя ў буйным нямецкім горадзе Майнцы. Нам мала што сёння вядома пра яго навучанне і адукацыю. У юнацкім узросце Гутэнберг з бацькамі выехаў у суседні Страсбур, дзе займаўся ювелірнымі рамёствамі: вырабам упрыгажэнняў і люстэркаў.

У выніку пэўных абставін ён у 1448 годзе вярнуўся ў родны Майнц, дзе заняўся кнігадрукаваннем. Яшчэ ў пачатку 1440-х гадоў Ёган Гутэнберг пачаў цікавіцца друкарскай справай. Як мяркуецца, новую тэхналогію друкавання ён вынайшаў каля 1440 года. Верагодна, першымі яго выданнямі былі “Граматыка лацінскай мовы” Элія Даната (некалькі яе аркушаў дайшлі да нашых дзён і захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Францыі), астралагічны

***"Біблія Гутэнберга" з фондаў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі***



календар і папскія індульгенцыі. Аднак самай вялікай справай яго жыцця стала выданне поўнай Бібліі на лацінскай мове. Як лічыцца, у 1450—1455 гадах Ёган Гутэнберг надрукаваў сваю знакамітую Біблію, вядомую сёння як "Біблія Гутэнберга". Другая яе назва — "42-радковая Біблія", бо ў ёй на кожнай старонцы тэкст надрукаваны ў два слупкі па 42 радкі ў кожным. Аб'ёмны фаліянт налічвае 1282 старонкі. Частка накладу выдання была надрукавана на паперы, а частка — на пергаменце. Дарэчы, трэба таксама сказаць, што Біблію Гутэнберг выдаў двойчы: апрача 42-радковага выдання, ім каля 1458—1460 гадоў было падрыхтавана яшчэ адно выданне — 36-радковае.

У выніку судовых разбіральніцтваў па пазыках першадрукара Ёган Гутэнберг вымушаны быў саступіць свайму колішняму паплечніку і кнігагандляру Ёгану Фусту ўласную маёмасць, у тым ліку аддрукаваны наклад знакамітай Бібліі. Адзначаныя падзеі адмоўна паўплывалі на друкарскую дзейнасць Гутэнберга, а неўзабаве прывялі і да яго смерці, што здарылася 3 лютага 1468 года. І ўсё ж гэта быў толькі першы крок на шляху той вялікай справы, якую ён распачаў.

Сапраўдная рэвалюцыя, здзейсненая Ёганам Гутэнбергам, была звязана адразу з некалькімі адкрыццямі. Па-першае, ён вынайшаў друкарскі варштат (станок), які замяніў



***Расфарбаваная ад рукі старонка "Бібліі Гутэнберга"***

сабою ранейшыя прэсы для ксілаграфій. Па-другое, ён распрацаваў еўрапейскую сістэму друку пры дапамозе рухомых літар. Па-трэцяе, Гутэнберг вынайшаў ручную словалітную прыладу, дапоўніўшы тэхналогію вырабу шрыфтоў пры дапамозе пуансонаў і матрыц. Па-чацвёртае, ён быў першым, хто пачаў рабіць літары са сплаву свінцу, волава і сурмы — кампанентаў, якія выкарыстоўваліся на працягу наступных 400 гадоў.

Важнейшае значэнне новага вынаходніцтва было ў тым, што друк кнігі станавіўся істотна больш хуткім і танным. Гэта прывяло да імклівага росту колькасці выпушчаных кніг. Набор тэксту з дапамогай рухомых літар аказаўся больш хуткім і надзейным, чым ксілаграфія. Металічныя літары былі больш трывалымі, а тэкст атрымліваўся больш аднастайным, што прывяло да з'яўлення тыпаграфікі і шрыфтавога мастацтва. Высокая якасць і адносна нізкая цана "Біблії Гутэнберга" даказалі перавагу выкарыстання рухомых літар у Еўропе. Лічыцца, што друкарскі станок і рухомыя літары сталі аднымі з ключавых фактараў, якія паскорылі пашырэнне Рэнесансу. Вынаходніцтвы Ёгана Гутэнберга вельмі хутка распаўсюдзіліся па ўсёй Еўропе, а потым і па ўсім свеце.



*Помнік Ёгану Гутэнбергу ў горадзе Майнц (1837)*

Сёння імя знакамітага друкара вядома амаль кожнаму. Яму ўстаноўлены помнікі, яшчэ ў 1901 годзе ў Майнцы быў адкрыты музей Гутэнберга. Яго імя носіць знакаміты электронны адукацыйны і навуковы рэсурс — агульнадаступная электронная бібліятэка "Праект Гутэнберг". У гонар вынаходніка нават названы астэроід, а таксама кратар на бачным баку Месяца. Але ж самае важнае тое, што справа Ёгана Гутэнберга зрабіла выключнае ўздзеянне на развіццё ўсёй чалавечай цывілізацыі і культуру кожнага з еўрапейскіх народаў, у тым ліку і беларусаў.

# ЗАХОДНЕЕЎРАПЕЙСКІЯ ІНКУНАБУЛЫ

Спачатку майнцкія друкары не раскрывалі сакрэт свайго вынаходства, але ў 1462 годзе (з прычыны неспакою ў горадзе) яны разышліся па розных гарадах. У выніку кнігадрукаванне пачало пашырацца за межамі Германіі. Так, першая друкарня ў Парыжы з'явілася ў 1470 годзе, а першая кніга была надрукавана ў 1476 годзе. Кнігадрукаванне ў Швейцарыі (Базель) пачалося ў 1468 годзе, у Бельгіі (Алст) — у 1473 годзе, у Венгрыі



"Сусветная хроніка" Хартмана Шэдаля (Нюрнберг, 1493)

## *Пашырэнне кнігадрукавання ў Еўропе*

Цэнтры друкавання інкунабул у 15 стагоддзі

1-9 выданняў інкунабул
10-99 выданняў інкунабул
100-999 выданняў інкунабул
больш за 1000 выданняў інкунабул

1452-1460
1461-1470
1471-1480
1481-1490
1491-1500

дзесяцігоддзе першага выдання

Любек
Зволе
Гауда
Дэлфт
Дэвентэр
Магдэбург
Вестмінстэр
Лондан
Лейпцыг
Антверпен
Лёвен
Кёльн
Эрфурт
Майнц
Бамберг
Руан
Нюрнберг
Шпаер
Парыж
Страсбур
Ульм
Ройтлінген
Аўгсбур
Вена
Базель
Мемінген
Пуацье
Жэнева
Вічэнца
Ліон
Брэшыя
Трэвіза
Мілан
Венецыя
Павія
Падуя
Ферара
Балоння
Тулуза
Фларэнцыя
Бургас
Саламанка
Сарагоса
Барселона
Рым
Канстанцінопаль
Неапаль
Севілья

(Будапешт) і Польшчы (Кракаў) — у 1473 годзе, у Англіі (Вестмінстэр) — у 1471—1476 гадах, у Іспаніі (Валенсія) — у 1472—1474 гадах, а ў Італіі (Субіяка ля Рыма) — яшчэ ў 1464—1465 гадах. Трошкі пазней сталі выпускаць кнігі ў Даніі (Одэнсэ) і Аўстрыі (Вена) — у 1482 годзе, Швецыі (Стакгольм) — у 1483 годзе, Партугаліі (Фару) — у 1487 годзе.

Традыцыйна самыя першыя еўрапейскія выданні, якія пабачылі свет ад вынаходства Ёгана Гутэнберга да канца 15 стагоддзя, у навуковай літаратуры называюць інкунабуламі.






*Гравюра з выявай спалення Яна Гуса ў інкунабуле "Канстанцкі сабор" (Аўсбург, 1483)*

Назва гэта паходзіць ад лацінскага слова incunabula, што азначае “калыска”, “пачатак”. Інкунабулы звычайна мелі вялікі фармат (у поўны аркуш), выходзілі часцей за ўсё на лацінскай мове і паводле свайго знешняга выгляду моцна нагадвалі сярэдневяковыя рукапісы. Бясспрэчна, што вынаходства друкаванай кнігі не было адразу ж прынята грамадствам і царквою, таму інкунабулы не перарывалі, прынамсі візуальна, старажытную кніжную традыцыю, паказвалі сваю пераемнасць.

Гатычныя шрыфты першых друкаваных кніг таксама моцна нагадвалі шрыфты сярэдневяковых рукапісаў. Пры гэтым вельмі часта ў выданнях пры друкаванні пакідалася месца для ініцыялаў, з якіх пачыналіся главы і раздзелы, а ўжо самі ініцыялы прыгожа выпісваліся ўручную. Спалучэнне друкаванага тэксту і рукапісных ініцыялаў стварала непаўторную гармонію ў вобразе еўрапейскіх першадрукаў.

Пры агульнай адносна сціплай аздобе інкунабул сярод іх прысутнічалі і сапраўдныя шэдэўры кніжнага мастацтва. У іх ліку можна назваць “Сусветную хроніку” Хартмана Шэдаля, якую ў 1493 годзе выдаў у Нюрнбергу знакаміты друкар Антон Кобергер. У гэтым выданні змешчана 1809 ксілаграфічных ілюстрацый —



*Гравюры італьянскіх выданняў адрозніваліся ад прац нямецкіх майстроў*


fratris Iohannis. N
ris eximii de ordine
a
Apud diſc
diuerſis n
didiſſe an
tatibus. C
parabiliter nobilior
rū medicis: de his c
bus egrotanti ſuccu
nam animam cade

*Малымі літарамі (рэпрэзентантамі) у інкунабулах пазначалі месца для будучых ініцыялаў*

прыгожых буйных гравюр на дрэве. У многіх асобніках гэтага выдання гравюры былі ад рукі расфарбаваны ўладальнікамі. Яшчэ адзін яркі прыклад — фларэнтыйскае выданне 1481 года “Боскай камедыі” Дантэ з гравюрамі Бача Бальдзіні па малюнках Сандра Батычэлі. Яно таксама ўспрымаецца як найважнейшая з’ява ў ранняй гісторыі кніжнай ілюстрацыі.

На працягу апошніх дзесяцігоддзяў 15 стагоддзя кнігадрукаванне пашырылася фактычна па ўсёй Заходняй і Цэнтральнай Еўропе. Многія гарады ператварыліся ў сапраўдныя цэнтры кнігадрукавання. Напрыклад, у Венецыі ўжо ў 15 стагоддзі дзейнічала каля 150 (!) друкарняў.

Нягледзячы на тое, што большасць выданняў выходзіла невялікімі тыражамі (каля 100—300 асобнікаў) агульны (сумарны) тыраж усёй выдавецкай прадукцыі на той час ужо дасягаў некалькіх мільёнаў кніг. Інкунабулы былі параўнальна недарагімі. З перапіскі тых часоў вядома, што друкаваныя кнігі каштавалі раз у пяць танней, чым рукапісныя.

Многія з іх траплялі і ў Вялікае Княства Літоўскае, а таму ўплывалі на інтэлектуальную культуру і кніжную справу на зямлі нашых продкаў. У шматлікіх даўніх беларускіх бібліятэках — велікакняжацкіх, прыватных, манастырскіх — зафіксаваны шматлікія інкунабулы.



***Чытач кніг. Расфарбаваная гравюра з кнігі "Карабель дурняў" Себасцьяна Бранта (1497)***

# ЧЭШСКІЯ ПЕРШАДРУКІ

Першая беларуская кніга выйшла ў Празе — сталіцы Чэхіі, далёка ад уласна беларускіх зямель. Гэта не было нечым незвычайным у той час. Кнігадрукаванне многіх краін пачалося па-за іх межамі. Гэта магло быць выклікана рознымі прычынамі: тэхналагічнымі (у адных краінах тэхніка кнігадрукавання істотна апярэджвала дасягненні іншых дзяржаў), эканамічнымі (коштам вырабу паперы, друкавання ці дастаўкі прадукцыі), рэлігійнымі і палітычнымі (нярэдка друкаваная кніга з'яўлялася з мэтай пашырэння новых ідэй, палітычных і рэлігійных поглядаў, якія знаходзіліся пад забаронай на радзіме).

Для здзяйснення сваіх выдавецкіх планаў Францыск Скарына абраў Прагу, якая на той час славілася высокім узроўнем развіцця культуры. Менавіта Чэхія першая са славянскіх краін распачала ўласнае кнігадрукаванне. Тут ужо існавалі ўласныя традыцыі кнігавыдання і нямала друкарняў.

У 15 стагоддзі ў Чэхіі распаўсюджваліся так званыя ксілаграфічныя кнігі і асобна аддрукаваныя аркушы з выявамі і цэльнагравіраваным тэкстам. Як мяркуюць даследчыкі, першая чэшская кніга — гэта пераклад на чэшскую мову старажытнага свецкага рамана канца 13 стагоддзя — "Траянскай хронікі" ("Historia destructionis Trojae") Гвіда дэла Калонэ. Яна была надрукавана ў 1468 годзе або некалькі пазней у горадзе Пльзень. У адрозненне ад практыкі большасці еўрапейскіх краін



***Старонка "Траянскай хронікі" Гвіда дэла Калонэ — першага чэшскага выдання***





першае чэшскае выданне выйшла на нацыянальнай мове (а не на лацінскай, напрыклад) і мела свецкі характар. У гэтым была відавочная адносная незалежнасць чэшскага кнігадрукавання ад уплыву царквы і знешнепалітычных фактараў. Менавіта гэта і магло прывабіць Францыска Скарыну.

Чэшскае кнігадрукаванне развівалася даволі хуткімі тэмпамі. Першая дакладна датаваная чэшская інкунабула “Statuta provincialia Ernesti”, была выпушчана ў Пльзені ў 1476 годзе. Трошкі пазней кнігадрукаванне пачалося і ў Празе: першым выданнем сталі сеймавыя пастановы 1478 года. У 1487 годзе быў выпушчаны Псалтыр, а потым байкі Эзопа. У Кутнай Горы ў 1489 годзе заснаваў друкарню Марцін з Цішнова. Чэшскія браты (паслядоўнікі Яна Гуса), якія напачатку выдавалі свае кнігі ў Нюрнбергу, у пачатку 16 стагоддзя заснавалі свае друкарні і ў межах Чэхіі: у тым ліку ў Літомышлі і Млада-Болеславе. У Маравіі (гістарычным рэгіёне Чэхіі) першыя друкарні знаходзіліся ў Брне, Оламаўцы і Просцеёве.



*Пражская Біблія 1488 года — першае чэшскае выданне Бібліі*

Усяго ў 15 стагоддзі ў Чэхіі было выпушчана 31 выданне на чэшскай і лацінскай мовах. Тэматыка іх разнастайная — Біблія, хронікі, календары і іншае. Больш за палавіну чэшскіх інкунабул мелі свецкі характар, што сведчыла аб культурным развіцці краіны і шырыні чытацкіх інтарэсаў у грамадстве. У выніку ўжо ў першай чвэрці 16 стагоддзя выйшла ў некалькі разоў больш выданняў, чым за ўсё 15 стагоддзе.

Чэхія магла таксама прывабіць Францыска Скарыну сваімі развітымі традыцыямі перакладу Бібліі на нацыянальную (і таксама славянскую) мову. Як вядома, менавіта на чэшскай зямлі стварэннем славянскай азбукі займаліся святыя Кірыла і Мяфодзій. Тут яны таксама пераклалі на славянскую мову асноўныя богаслужэбныя кнігі: Евангелле, Апостал і Псалтыр, якія адначасова з'яўляюцца кнігамі Бібліі.

У далейшым з'явіліся і ўласна чэшскія пераклады асобных кніг Бібліі. У 15 стагоддзі чэшскімі багасловамі рабіліся вялікія намаганні па складанні з гэтых больш ранніх перакладаў поўнага зводу Бібліі на чэшскай мове. У выніку каля 1410 года на ас-



*Выява святога Ераніма з пражскага выдання Новага Запавету 1498 года*

нове больш ранніх перакладаў была складзена так званая Лескавецкая (Дрэздэнская) Біблія; каля 1411—1416 гадоў з'явілася Літамерыцкая-Славатаўская, у тэксце якой заўважаюцца сляды працы Яна Гуса; каля 1416 года — глагалічная Эмаўская Біблія; у 1417 годзе — Аламоўцкая Біблія. Вялікая колькасць зводаў Бібліі, што з'явіліся ў Чэхіі ў 14—15 стагоддзях, сведчыла аб значнай запатрабаванасці гэтай кнігі ў грамадстве, аб развітой кніжнай культуры і вялікіх дасягненнях чэшскіх багасловаў. Вынаходства друкавання кніг паспрыяла задавальненню попыту і веданню Бібліі.

Першая поўная чэшская Біблія была надрукавана ў Празе ў 1488 годзе.



*Венецыянская Біблія 1506 года*




Ewangelista

zplodil salmona · Salmon
pak zplodil booza z araab · A
booz zplodil obeta z rut · Po
tom obet zplodil yesse · Jesse
pak zplodil dawida krale · A
dawid kral zplodil gest ssa-
lomuna : z te zeny kteraz by

la Uryassowa · Ssalomun
pak zplodil gest roboama · Ro
boam pak zplodil abiasse · A
abiass zplodil azu · A aza z
plodil yozafata · Potom ioza
fat zplodil yorama · A yo-
ram zplodil oziasse · Ozyass

Радаводнае дрэва Ісуса Хрыста на гравюры з Новага Запавету (Прага, 1498)




Радаводнае дрэва Ісуса Хрыста на гравюры з Псалтыра Францыска Скарыны 1517 года

У канцы гэтага выдання адзначана, што яно выканана “ў слаўным Пражскім Старым Месце” — амаль як і ў кнігах беларускага першадрукара. Літаральна праз год — у 1489 годзе — пабачыла свет яшчэ адно выданне Бібліі на чэшскай мове. На гэты раз яно выйшла ў Кутнай Горы. Кутнагорская Біблія, аздобленая ксілаграфічнымі выявамі, як і папярэдняе пражскае выданне, грунтавалася на перакладзе святога Еранімa Стрыдонскага, добра вядомага і Францыску Скарыну. Аднак гэты пераклад не вызначаўся высокім узроўнем. Да таго ж яшчэ ў 16 стагоддзі яны лічыліся даволі рэдкімі.

Таму, як можна меркаваць, найбольшае ўздзеянне на Францыска Скарыну зрабіла трэцяе выданне чэшскай Бібліі, якое пабачыла свет у Венецыі ў 1506 годзе на сродкі жыхароў Старога Места Пражскага. Яно было надрукавана на 570 вялікіх аркушах (у два слупкі, па 53 радкі ў кожным) і аздоблена 109 гравюрамі. Параўнанне тэксту перакладу Францыска Скарыны з Венецыянскай Бібліяй дазваляе ўпэўнена казаць пра выкарыстанне беларускім друкаром і перакладчыкам гэтага чэшскага выдання.

Што важна, у Чэхіі ў часы Скарыны ўжо існавала развітая мастацкая традыцыя вырабу гравюр, якімі аздабляліся многія выданні. Бясспрэчна, што ім быў выкарыстаны паўвекавы вопыт чэшскіх майстроў. У асобных выпадках мы нават сустракаем прыклады непасрэднага выкарыстання Францыскам Скарынам гравюр з папярэдніх мясцовых выданняў.

# ШВАЙПОЛЬТ ФІЁЛЬ І ПЕРШЫЯ ВЫДАННІ КІРЫЛІЧНАГА ШРЫФТУ

Першыя друкаваныя славянскія кнігі пачалі выходзіць яшчэ ў 15 стагоддзі, прычым адразу трыма шрыфтамі. Лацінскім шрыфтам карысталіся найперш палякі. У 1483 годзе выйшла першая славянская кніга глагалічнага шрыфту.

Першы вопыт кірылічнага кнігадрукавання звязаны з імем жыхара Кракава Швайпольта Фіёля. Хаця ён быў “нямецкага роду”, каталік, не ведаў славянскай мовы і кірылічнага алфавіта, пошук новых прыбытковых рынкаў падштурхнуў яго да друкавання кніг для ўсходніх славян.

Ён прыехаў у Кракаў у 1479 годзе, запісаўся да цэха майстроўзалатнікоў. Пры падтрымцы мясцовай арыстакратыі Швайпольт Фіёль заснаваў друкарню. Кірылічны шрыфт для яго вырабіў іншы немец — Рудольф Борсдорф, які абяцаў больш нікому шрыфты не рабіць і нікога не вучыць гэтаму мастацтву.





*Старонка "Актоіха" Швайпольта Фіёля (1491) — першага кірылічнага выдання*






Калафон "Часаслова" Швайпольта Фіёля (1491)

Разумеючы вялікую патрэбу праваслаўнай царквы ў багаслужэбных кнігах на царкоўнаславянскай мове, Фіёль найперш падрыхтаваў да друку і выпусціў у 1491 годзе дзве літургічныя кнігі — “Актоіх” і “Часаслоў”. Яны былі надрукаваны ў два колеры — чорнай фарбай і чырвонай кінавар’ю. Мастацкая аздоба і шрыфт гэтых кніг грунтаваліся на даўніх традыцыях царкоўнаславянскага кнігапісання. Напрыканцы кнігі, у так званым калафоне, прыведзены выходныя звесткі пра выданне.

Каля 1493 года Швайпольт Фіёль выдаў яшчэ дзве кнігі — “Трыёдзь посную” і “Трыёдзь кветную”. Апошняе выданне мела прывабнае мастацкае афармленне. На вялікі жаль, на гэтым выдавецкая дзейнасць нямецкага друкара скончылася. Па невядомых прычынах (магчыма, з-за канфлікту з каталіцкай царквой) ён заняўся іншымі справамі, а пасля і зусім выехаў з Кракава. Кнігі Швайпольта Фіёля на працягу некалькіх стагоддзяў пашыраліся на ўсходнееўрапейскіх землях, актыўна выкарыстоўваліся. Яны былі вядомымі і ў Беларусі, дзе зберагаліся ў некаторых манастырскіх і царкоўных бібліятэках.

Нягледзячы на прыпыненне дзейнасці друкарні Фіёля, спыніць распачатую ім справу ўжо было немагчыма. У 1494 годзе пачала дзейнічаць чарнагорская друкарня ў манастыры ў Цэцінэ. Ініцыятарам яе стварэння быў вядомы дзяржаўны дзеяч Чарнагоры



Манастыр у Цэцінэ. Сучасны выгляд

Іван Чарноевіч, а прадаўжальнікам — яго сын — Джурадж Чарноевіч. Гэта была першая дзяржаўная друкарня на Балканах. Яна працягвала традыцыі кнігапісання, якія пашыраліся на землях Чарнагорыі з даўняга часу.

Першай кнігай, што пабачыла свет 4 студзеня 1494 года ў цэцінскай друкарні, быў "Актоіх". Прытым гэта быў так званы Вялікі Актоіх, які ўключаў службы на кожны дзень тыдня на ўсе восем гласаў. Паколькі такі аб'ём не змясціўся ў адну кнігу, то першае выданне ўключала толькі палову тэкстаў — з песнапеннямі на першыя чатыры гласы. Таму гэта выданне яшчэ называюць "Актоіхам першагалоснікам". Аздоба кнігі была даволі сціплай: у ёй можна знайсці толькі тры застаўкі і пяць ініцыялаў (надрукаваных з чатырох дошак).

Скончыўшы працу над першай часткай "Актоіха", друкары ўзяліся за другую. Яна мусіла ўключаць песнапенні на 5—8 гласаў. Аднак, верагодна, друкары не здолелі завяршыць сваю працу. На сёння вядома толькі некалькі фрагментаў гэтага выдання з пачатковай яго часткі. Кніга была ўпрыгожана гравюрамі, надрукаванымі з драўляных дошак. "Следаваны Псалтыр" 1495 года стаў трэцім выданнем цэцінскай друкарні. Ён змяшчае, апрача традыцыйных тэкстаў, месяцаслоў і пасхалію (табліцы, якія дапамагаюць вылічыць дзень Вялікадня). Апошнім выданнем друкарні Джураджа Чарноевіча стаў "Трэбнік", надрукаваны ў 1496 годзе. Да нашага часу захаваліся толькі пяць фрагментаў гэтага выдання.



Помнік Івану Чарноевічу ў Цэцінэ

У 1496 годзе Княства Зэта, якім кіраваў Джурадж Чарноевіч, было захоплена турэцкімі войскамі, а сам князь вымушаны быў эміграваць. У сувязі з гэтымі падзеямі дзейнасць першай паўднёваславянскай друкарні скончылася. Адбылося гэта прыблізна ў снежні 1496 года.

Друкаром у Цэцінэ быў іераманах Макарый. Гэтае ж імя мы сустракаем ва ўзгадках аб дзейнасці іншай балканскай друкарні, якая дзейнічала ў горадзе Тыргавіштэ — сталіцы Валахіі. Тут у 1508 годзе пад кіраўніцтвам манаха Макарыя (хутчэй за ўсё гэта быў іншы чалавек, а не друкар з Цэцінэ) пачала дзейнічаць новая друкарня. 10 лістапада 1508 года ў гэтай друкарні выйшаў "Служэбнік" — першая







*"Актоіх" — першае чарнагорскае выданне*



*Руіны палаца ў Тыргавіштэ*

кніга на тэрыторыі сучаснай Румыніі. 26 жніўня 1510 года тут быў надрукаваны "Актоіх", а 25 чэрвеня 1512 года — "Евангелле".

Друкарня ў Тыргавіштэ была непасрэднай папярэдніцай выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны. Некаторыя даследчыкі нават выказваюць меркаванне, што беларускі першадрукар мог вучыцца друкарскай справе ў манаха Макарыя ў Валахіі, аднак гэта версія застаецца толькі малаверагоднай гіпотэзай.



*Евангелле 1512 года з друкарні Макарыя ў Тыргавіштэ*



# ПЕРШАЯ КНІГА – ПСАЛТЫР

Першай беларускай друкаванай кнігай стаў Псалтыр. Дата выхаду ў свет (ці, хутчэй, падпісання яе Францыскам Скарынам у друк) дакладна вядомая, бо выдавец засведчыў яе ў самім выданні — 6 жніўня 1517 года. Менавіта гэта дата лічыцца сёння пачаткам беларускага кнігадрукавання.

Псалтыр — адна з найбольш папулярных і распаўсюджаных у хрысціянстве кніг Бібліі. Яна ўключае шматлікія псалмы — творы-гімны рэлігійнага і лірычнага зместу. Аўтарам гэтай кнігі, згодна з традыцыяй, лічыцца цар Давыд. На беларускіх землях яна шырока выкарыстоўвалася для навучання грамаце, рэлігійна-маральнага выхавання, а таксама і для царкоўнага богаслужэння, таму лічылася адной з найбольш запатрабаваных. Да таго ж, як пісаў прафесар Яўхім Карскі, Псалтыр стаў адной з першых кніг, у тэксце якой былі адлюстраваны асаблівасці старабеларускай мовы.

Верагодна, менавіта таму Францыск Скарына абраў Псалтыр у якасці свайго першага выдання. На прыкладзе такой кнігі можна было найбольш пэўна ўдакладніць, наколькі наогул будзе карыстацца попытам яго выдавецкая прадукцыя. У сувязі з гэтым і ўвага падрыхтоўцы выдання надавалася вельмі значная.

Пра тое, якое значэнне надаваў сам Скарына першаму выданню Псалтыра, можна прачытаць у прадмове да гэтай кнігі. У паэтычнай форме асветнік адзначае:

“*Псалом — шчыт супраць чартоўскіх начных мрояў і страхаў,*
*спакой у дзённых клопатах і працы,*
*юнаму — абаронца і радасць,*
*старому — суцяшэнне і песня,*
*жанчынам — набожная малітва і ўкраса,*
*дзецям малым — пачатак усялякага добрага навучання,*
*дарасламу — у ведах узрастанне,*
*мужу — у сіле ўмацаванне.*
*Псалом — адзіны голас усяе Царквы — святы аздабляе.*
*Псалом усялякую існую супярэчнасць дзеля Бога супыняе.*
*Псалом сэрца лютае змякчае*
*і слёзы, як з крыніцы, з яго выпускае.*
*Псалом — спеў анёла, духоўны чабор:*
*і цела спевам узвесяляе, і душу навучае*”.



очима • Также будь ведомо положилъ
есми некоторые насторонницахъ всеи псал-
тыри главы зрозныхъ книгъ, ато для то-
го абы знакомито было иже вси иные све-
тые писма згожаютьсѧ съпсалтырею и о-
дно надругое светчить, ато чтучи втыхъ
книгахъ иже суть главы набоцехъ пописа-
ны знайдете • Также положилъ есми на
боцехъ некоторыи слова длѧ людеи про-
стыхъ, нерушаючи самое ѱалътыри ни-
вчемъже ѧко суть онагри игеродеево, жи-
лище ихлѧбие • Иные слова которыи
суть въпсалтыри неразумныи простымъ
людемъ, найдуть е набоцехъ рускимъ
ѧзыкомъ что которое слово знаменуеть:
Теже роздели лъ есми вси псалмы настихи
потому ѧкосѧ выныхъ ѧзыцехъ делить ⁓
Атакъ е конець Предъсловиѧ
ѱалтыри ⁓

Починаютьсѧ песни давы-
да пророка царѧ изра-
илева кафисма а ⁓
Псаломъ давыдовъ а ⁓
Блаженъ мужъ иже ѱало а
неиде насовѣтъ нече-
стивыхъ, инапути
грешныхъ неста, ина
седалищи губитель
неседе • Но възаконѣ
гдни волѧ его, ивъ
законѣ его поучитсѧ
день инощь • И будеть ѧко древо саждено
при исходищихъ водъ, иже плодъ свои да-
сть ⁓

## *Першае беларускае выданне*

Разумеючы выключнае значэнне Псалтыра для асветніцкіх і рэлігійных мэт першадрукар пастанавіў: “І я, Францішак, Скарынаў сын, з Полацка, у лекарскіх навуках доктар, бачачы такую карысць ад такой малой кнігі, загадаў друкаваць Псалтыр рускімі словамі (так Скарына называе словы старабеларускай мовы) на славянскай мове — найперш дзеля ўшанавання і праслаўлення Бога, у Тройцы адзінасутнага, і Яго Прачыстай Маці, Марыі, і ўсіх нябесных чыноў і святых Божых, а затым дзеля ўсеагульнага дабра — перадусім таму, што міласцівы Бог пусціў мяне на свет з гэтага народа”.

Першая беларуская друкаваная кніга з’яўляецца так званым простым Псалтыром у скарочаным яго варыянце. Гэта выданне змяшчае (акрамя тытульнага аркуша і аўтарскай прадмовы) уласна Псалтыр (што складаецца з 20 кафізмаў і 150 псалмоў), а таксама некаторыя біблейскія песні і малітвы Старога і Новага Запаветаў.

Пры ўсім гэтым выданне Францыска Скарыны вылучалася наватарскім характарам. Па-першае, да асноўнага тэксту Псалтыра выдавец дадаў сваю аўтарскую прадмову, якая, па-сутнасці, і адкрывае кнігу. У ёй асветнік выказаў сваё ўласнае бачанне ролі гэтай



*Першыя старонкі Псалтыра*

кнігі, паказаў яе значнасць не столькі для правядзення царкоўнага богаслужэння, колькі для маральна-павучальных, эстэтычных, адукацыйных і выхаваўчых мэт. Па-другое, ужо ў гэтым першым выданні нашага земляка відавочным з'яўляецца яго імкненне зрабіць кнігу зразумелай і даступнай "паспалітым" (простым, звычайным) людзям — шырокім колам насельніцтва. З гэтай мэтай ён уключае ў змест выдання ўласныя прадмову і пасляслоўе. Важна, што яны напісаны ўжо не на царкоўнаславянскай мове, а на мове, блізкай і зразумелай кожнаму, якую сёння даследчыкі называюць старабеларускай мовай. Урэшце рэшт нават асноўны тэкст Псалтыра ў тлумачэнні Скарыны набыў многія мясцовыя рысы, таму даследчыкі звычайна кажуць, што гэта пераклад на царкоўнаславянскую мову ў беларускай рэдакцыі. Да таго ж некаторыя малазразумелыя і архаічныя царкоўнаславянскія словы Францыск Скарына тлумачыць на палях "рускай мовай" — гэта значыць па-беларуску.

Паколькі гэта была першая спроба выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны, то гэта выданне некалькі адрознівалася візуальна ад усіх наступных. Так, яно мела трошкі меншую паласу набору: на старонцы Псалтыра змяшчалася толькі 20 рад-

коў, а ў наступных выданнях іх было ўжо 22. Аркушы нумараваліся ўнізе старонкі, а не зверху, як на пазнейшых выданнях. Відавочна, што Скарына знаходзіўся ў стане пошуку найбольш дасканалай мастацкай формы, якая б адпавядала яго аўтарскай задуме. Але вынік гэтых клопатаў быў годны — ні адно з папярэдніх кірылічных выданняў не мела такога багатага і дасканалага мастацкага афармлення, як выданні беларускага першадрукара.

Пражскі Псалтыр — першая беларуская друкаваная кніга — з'яўляецца самым рэдкім выданнем Францыска Скарыны. Яно захавалася да нашага часу толькі ў двух асобніках. І абодва яны, на жаль, няпоўныя: у кожным адсутнічае па некалькі старонак. Гэта з'яўляецца сведчаннем актыўнага выкарыстання дадзенага выдання. Тое ж мы можам бачыць на прыкладзе многіх знойдзеных у Беларусі рукапісных копій Псалтыра, які традыцыйна быў важнейшай кнігай для навучання. У іх прысутнічаюць шматлікія прыпіскі і малюнкі вучняў, а большасць захаваных асобнікаў вельмі "зачытаныя" і знаходзяцца ў кепскім стане. Таму ўпэўнена можна казаць, што пачынанне Францыска Скарыны не засталося незаўважаным, што натхніла яго на працяг сваёй дзейнасці.

Такім чынам, беларускае кнігадрукаванне пачалося з вельмі запатрабаванага ў грамадстве выдання — Псалтыра — адной з самых узнёслых і эмацыйна ўзвышаных кніг Бібліі. Яно адкрыла сабою цэлую серыю біблейскіх выданняў, якія падрыхтаваў і выпусціў у 1517—1519 гадах Францыск Скарына, а таксама паклала пачатак усяму беларускаму кнігадрукаванню.




*Старонка Псалтыра з рукапіснай пазнакай, што кніга выйшла пры падтрымцы Багдана Онкава, сына радцы места Віленскага*

# ПРАЖСКІЯ ВЫДАННІ КНІГ БІБЛІІ

У Празе беларускі першадрукар распачаў выданне Біблії — "кнігі кніг", якая іграла першачарговую ролю як сімвал еўрапейскай хрысціянскай культуры. Выключная роля і значэнне гэтай кнігі патрабавалі вельмі ўважлівага і пільнага стаўлення да справы перапісвання, перакладу і друкавання.

У адрозненне ад іншых, нават самых каштоўных, кніг яна лічылася Запаветам Божым — Святым Пісаннем. На гэтай кнізе грунтаваліся ўсё хрысціянскае багаслоўе, царкоўная дагматыка, з Бібліяй непасрэдна было звязана богаслужэнне


Книги
На греческий язык часу Птоломея Филадельфа
царя египетского. А тося называеть выклад
книг ветхого закону посполитый. Еже выкладали
семдесят и два докторове посланые от Елиазара жер
ца великаго ерусалимского. Яко о том более доть
кнул есмь в предмолве своей на Исуса Сирахова:
Светый пак Ероним или Ерасим презентер
оже был есть по вопдлощении слова божия лет
четыреста выложил на латинский язык. С халдейского
еврейского и греческаго зуполне, чего во
еврейских книгах не пишеть положил к уконцу не
рушаючи и особне, и на главы розделил. Яз теже
наследуя мужа светого. Напре богу в тройци едином
кочти. И своему прироженому Рускому языку
к науце всего доброго. Подняле праци тое и з божию
помощию межи иными книгами выложил и сию книгу
Есфер. Не толико само собе народи хочем навет
но более ко служба божией, и посполитого доброго.
Конец предсловия.

Некопан под другом своим имы ся велишася вню
неставь Амане Мардохею шибенице ся повинеш нань

Есфер.

Починаеться книга Есфер царици
оная же выбавила есть сыны Израилевы
от руки Амановы. Иже был выпросил
их у царя Асвера. А имать глав .ЕІ.

Глава .А.

Опирований царя Асвера, егоже царица Васти
ха не хотела ити к царю на пир. И протож отогнал
ее, и установил абы жены послухали мужей своих.

В одни Асвера царя, оный же цар твовал
есть от Инъдии даже до Ефиопии, над
стом и двадцетми и седми странами,
егда сяде на престоле царства своего.
Зуза град было есть початок царства

*Разварот Кнігі Эсфіры*

| № п.п. | Назва выдання | Месца выдання | Дата выдання |
|---|---|---|---|
| 1. | Псалтыр | Прага | 6 жніўня 1517 года |
| 2. | Кніга Іова | Прага | 10 верасня 1517 года |
| 3. | Кніга Прытчаў Саламона | Прага | 6 кастрычніка 1517 года |
| 4. | Кніга Ісуса Сірахава | Прага | 5 снежня 1517 года |
| 5. | Кніга Эклезіяста, або Саборнік | Прага | 2 студзеня 1518 года |
| 6. | Кніга Песня песняў | Прага | 9 студзеня 1518 года |
| 7. | Кніга Прамудрасці Божай | Прага | 19 студзеня 1518 года |
| 8. | Першая Кніга Царстваў | Прага | 10 жніўня 1518 года |
| 9. | Другая Кніга Царстваў | Прага | 10 жніўня 1518 года |
| 10. | Трэцяя Кніга Царстваў | Прага | 10 жніўня 1518 года |
| 11. | Чацвёртая Кніга Царстваў | Прага | 10 жніўня 1518 года |
| 12. | Кніга Ісуса Навіна | Прага | 20 снежня 1518 года |
| 13. | Кніга Юдзіф | Прага | 9 лютага 1519 года |
| 14. | Кніга суддзяў | Прага | 15 снежня 1519 года |
| 15. | Кніга Быцця | Прага | 1519 год |
| 16. | Кніга Выхад | Прага | 1519 год |
| 17. | Кніга Лявіт | Прага | 1519 год |
| 18. | Кніга Лічбы | Прага | 1519 год |
| 19. | Кніга Другі Закон | Прага | 1519 год |
| 20. | Кніга Руфі | Прага | 1519 год |
| 21. | Кніга Эсфіры | Прага | 1519 год |
| 22. | Кніга Плач Ераміі | Прага | 1519 год |
| 23. | Кніга прарока Данііла | Прага | 1519 год |






*Разварот Трэцяй Кнігі Царстваў*

ў храмах, навучанне ў школах і ўніверсітэтах, нават агулам — штодзённае жыццё сярэдневяковага грамадства. Таму адвольнае абыходжанне з тэкстам Святога Пісання не дапускалася. І гэта было зразумела кожнаму, не патрабавала доказаў ці тлумачэнняў. Стаўленне да Бібліі ў Еўропе было як да галоўнай святыні, важнейшага сімвала агульначалавечай культуры.

У 1517 годзе Францыск Скарына апублікаваў у Празе адразу чатыры кнігі Старога Запавету, а на працягу наступных двух гадоў — яшчэ не менш за дзевятнаццаць. Многія з іх маюць дакладную дату выхаду.

Як мяркуецца, Францыск Скарына пры падрыхтоўцы выдання Бібліі абапіраўся найперш на чэшскае выданне 1506 года, класічныя лацінскі пераклад (Вульгату) і царкоўнаславянскія рукапісныя тэксты Бібліі. Але яму, бясспрэчна, былі знаёмы таксама яўрэйскі і грэчаскі тэксты Святога Пісання.

Пераклад, зроблены Скарынам, не мае вядомых аналагаў і, відавочна, быў зроблены самім беларускім першадрукаром, як ён пра тое і кажа ў прадмовах і пасляслоўях да сваіх выданняў. Пераклад гэты, хоць і блізкі да беларускай мовы таго часу, але ўсё ж зроблены на царкоўнаславянскую мову. Менавіта на ёй адбываліся богаслужэнні ў праваслаўных храмах Беларусі, таму кнігі Скарыны знайшлі значнае пашырэнне ў многіх цэрквах і манастырах Вялікага Княства Літоўскага.

Выданні Францыска Скарыны служылі ўмацаванню хрысціянскіх асноў жыцця беларускага народа, але яны былі распаўсюджаны таксама ў Расіі, Украіне, Літве, Польшчы і іншых славянскіх краінах, а часам траплялі і ў вельмі аддаленыя дзяржавы.

Біблія ў выданні доктара Скарыны — з'ява незвычайная ў гісторыі біблеістыкі і кнігадрукавання. Гэта не царкоўнае і не акадэмічнае выданне для навуковых мэт, гэта — першае выданне Святога Пісання для хатняга чытання. Падыход да мастацкай аздобы кніг, асаблівасці перакладу, структура публікацый — усё гэта сведчыць пра шырокае прызначэнне Бібліі Францыска Скарыны, а найперш пра яго скіраванасць на асветніцкія задачы. Як навуковец, перакладчык і выдавец, ён у імя даступнасці і правільнасці разумення простым народам Бібліі ўнёс шмат новага ў свае выданні, імкнучыся прытрымлівацца арыгінальных біблейскіх тэкстаў.

Важнейшай каштоўнасцю пражскіх выданняў Францыска Скарыны з'яўляюцца яго аўтарскія прадмовы і пасляслоўі да кожнай з кніг, а таксама адна агульная "Прадмова да ўсёй Бібліі". Яго мастацкае слова вызначаецца паэтычнасцю, эмацыянальнай выразнасцю. Гэта дазваляе нам казаць пра вялікі пісьменніцкі талент Скарыны. Яго творы — гэта размова з чытачом. Асветнік імкнуўся не фармальна выкласці сутнасць праблемы, а зацікавіць суразмоўцу, пачаць з ім жывую адрасную дыскусію.

У выказваннях і каментарыях Францыска Скарыны, у яго адносінах да кнігавыдавецкай, асветніцкай і палітычнай дзейнасці адчуваюцца яго грамадзянскія патрыятычныя пачуцці, імкненне садзейнічаць духоўнаму развіццю свайго народа.

Яшчэ адным важнейшым дасягненнем беларускага першадрукара стала цудоўная мастацкая аздоба яго кніг. На прыблізна 1200 аркушах яго пражскіх выданняў змешчаны выявы з 49 гравюр і сотні застаўак, канцовак, ініцыялаў!

Верагодна, Францыск Скарына меў намер выдаць у Празе ўсе кнігі Старога Запавету (іх некалькі больш, чым вядома ў перакладзе беларускага першадрукара). Магчыма, ён нават здзейсніў гэты намер, аднак некаторыя з выпушчаных ім кніг не захаваліся да нашага часу. На карысць гэтай думкі сведчаць рукапісныя копіі кніг, якія нібыта былі перакладзены Скарынам, але не захаваліся ў выглядзе выданняў.

Сёння ж спадчына вялікага асветніка з Полацка лічыцца нацыянальным скарбам, найвялікшым багаццем беларускага народа.



*Разварот Кнігі Юдзіф*

# «МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА»

Каля 1520 года Францыск Скарына завяршыў сваю выдавецкую дзейнасць у Празе і пераехаў на Радзіму — у Вялікае Княства Літоўскае. Са сталіцай нашай даўняй краіны Вільняй ён ніколі не губляў сувязей, карыстаўся падтрымкай багатых гараджан Вільні падчас арганізацыі сваёй выдавецкай дзейнасці ў Празе. Верагодна, і на гэты раз ён пераехаў у Вільню па запрашэнні мясцовага высакароднага паспольства.

На радзіме першадрукара адчувалася вострая патрэба ў друкаванай кнізе, выдадзенай тут жа, на месцы. У сувязі з гэтым выглядае цалкам зразумелым, што па прыездзе ў Вільню Францыск Скарына распачаў тут сваю выдавецкую дзейнасць. На гэты раз ён сутыкнуўся з вялікімі цяжкас-



*Першая старонка Псалтыра — пачатак "Малой падарожнай кніжкі"*



Тытульны аркуш Часаслоўца

цямі, паклапаціцца пра якія ён мусіў яшчэ ў Празе. У адрозненне ад Чэхіі тут дагэтуль не іскавала ніводнай друкарні, не выкарыстоўваліся металічныя шрыфты, толькі пачыналася вытворчасць паперы і хутчэй за ўсё не было прафесійных майстроў-гравёраў.

Асветнік з Полацка мусіў заняцца стварэннем уласнай друкарні і непасрэднай працай па кіраванні друкарскім працэсам. Паказальна, што друкарня размясцілася ў доме найстарэйшага бурмістра Якуба Бабіча. Гэта сведчыць пра вялікую ўвагу і зацікаўленасць, з якімі віленчукі паставіліся да выдавецкай ініцыятывы Скарыны.

У гэтай друкарні каля 1522 года выйшла першая кніга на этнічных беларускіх землях і ва ўсёй Усходняй Еўропе. Тытульны аркуш гэтага выдання не захаваўся, таму і пра назву яго даводзіцца казаць даволі ўмоўна. У прадмове да кнігі сярод іншага дадзены пералік твораў, якія "ў гэтай "Малой падарожнай кніжцы" па чарзе каротка выкладзены". На гэтай падставе даследчыкі і назвалі яе "Малой падарожнай кніжкай".

Адсутнасць тытульных аркушаў была характэрнай з'явай многіх славянскіх рукапісаў і выданняў таго часу (напрыклад, у Расіі тытульныя аркушы пачалі сістэматычна выкарыстоўвацца толькі дзякуючы Сімяону Полацкаму ў канцы 17 стагоддзя). Аднак па змесце любы дасведчаны чытач мог устанавіць, што за кнігу трымае ў сваіх руках. У дадзеным выпадку няма ніякіх сумневаў, што мы маем справу з так званым Следаваным Псалтыром.

Трэба ўдакладніць, што просты Псалтыр, як, напрыклад, выдадзены Францыскам Скарынам у Празе 6 жніўня 1517 года, складаўся з уласна біблейскай кнігі Псалтыр і мог таксама ўключаць біблейскія песні і "выбраныя псальмы", памінальныя службы і некаторыя іншыя дапаможныя матэрыялы. У той жа час Следаваны Псалтыр паводле зместу — гэта той жа просты Псалтыр, да якога дадаваліся Часаслоў (паслядоўнасць дзённых службаў) і іншыя творы (да 50 асобных прац). Гэта была ўніверсальная богаслужэбная кніга. Яна карысталася вялікай папулярнасцю,








*"Малая падарожная кніжка"*

бо таксама выкарыстоўвалася для навучання ў пачатковых школах і прыватнага выкарыстання.

"Малая падарожная кніжка" ўяўляе сабою менавіта такі Следаваны Псалтыр. Яна складалася з 22 частак.

Папулярнай з'яўляецца думка, што Францыск Скарына друкаваў гэтыя часткі асобнымі выпускамі, а таму іх можна лічыць асобнымі выданнямі. Гэтак жа, як і кнігі Біблii, надрукаваныя беларускім першадрукаром у Празе.

**Псалтыр**
**Акафіст труне Гасподняй**
**Акафіст архангелу Міхаілу**
**Акафіст Іаану Прадцечы**
**Акафіст Багародзіцы**
**Акафіст святым Пятру і Паўлу**
**Акафіст святому Міколу**
**Акафіст крыжу Гасподняму**
**Акафіст імені Ісуса**
**Шасцідневец**
**Канон у суботу на ютрані**
**Часаслоў**
**Канон труне Гасподняй**
**Канон архангелу Міхаілу**
**Канон Іаану Предцечы**
**Канон Багародзіцы**
**Канон святым Петру і Паўлу**
**Канон святому Міколу**
**Канон крыжу Гасподняму**
**Канон імені Ісуса**
**Канон пакаяльны**
**Саборнік**

Прычын для такога меркавання няма-ла. Па-першае, кожная з гэтых частак мае ўласную нумарацыю аркушаў і ў кожнай наступнай частцы нумарацыя пачынаецца спачатку. Па-другое, у кожнай з частак — свой тытульны аркуш, а агульнага тытула для "Малой падарожнай кніжкі" няма. Па-трэцяе, вядомыя нам экзэмпляры выдання састаўлены з розных частак і ў розным парадку. Гэта дазваляе меркаваць, што названыя часткі зборнага выдання выдаваліся асобна адна ад другой і ўжо кожны ўладальнік мог набыць патрэбныя яму асабіста блокі і скласці з іх сваю версію кнігі. Не ўсе гісторыкі і кнігазнаўцы пагаджаюцца з такім меркаваннем, але яно досыць абгрунтаванае.

Пашыраная сёння назва гэтай кнігі сведчыць, што яна прызначалася найперш для зручнага выкарыстання не столькі для царкоўных патрэб, колькі для хатняга чытання і ў час падарожжаў. Гэтым жа мэтам адпавядаў малы фармат выдання — удвая меншы, чым мелі пражскія выпускі Бібліі Скарыны.

"Малая падарожнай кніжка" аздоблена некалькімі гравюрамі новага тыпу, непадобнымі да тых, што выкарыстоўваліся ім у пражскіх выданнях. З прычыны адсутнасці на радзіме першадрукара прафесійных мастакоў-гравёраў можна дапусціць, што гравіравальныя дошкі, як і шрыфты, былі прывезены Францыскам Скарынам з Прагі. Пра гэта сведчыць і ўжыванне ў афармленні "Малой падарожнай кніжкі" гравюр, якія ў 1493 годзе выкарыстоўваліся ў Нюрнбергу для выдання "Сусветнай



***Еўрапейская паясная кніга са зручным пераплётам для выкарыстання ў дарозе***

хронікі" Хартмана Шэдаля — найбольш прыгожага выдання канца 15 стагоддзя. У той жа час у новай кнізе Скарыны бачныя многія рысы папярэдніх яго пражскіх выданняў, што таксама сведчыць пра тое, што ён перавёз у Вільню разам з асабістымі рэчамі і некаторыя друкарскія матэрыялы.

Доўгі час не было вядома, калі ж пабачыла свет "Малая падарожная кніжка". Многія даследчыкі лічылі, што гэта адбылося каля 1530 года ці нават пазней. Толькі пасля Другой сусветнай вайны ў Каралеўскай бібліятэцы





*Прыклад "паяснай кнігі" невялікага фармату*

ў Капенгагене была адшукана раней невядомая "Пасхалія", якая ўваходзіла ў склад выдання. Яна ўяўляла сабою царкоўны каляндар, які пачынаўся з 1523 года, а таму, як мяркуецца, выданне з гэтай "Пасхаліяй" павінна было друкавацца перад тым — у 1522 годзе. Такім чынам была ўстаноўлена дата пачатку кнігадрукавання на беларуска-літоўскіх землях.

Дзякуючы апошняму Францыск Скарына абгрунтавана лічыцца першым беларускім, літоўскім і ўсходнеславянскім друкаром, першым друкаром у Вялікім Княстве Літоўскім і заснавальнікам першай друкарні на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Дзякуючы яго ўдзелу беларуская друкаваная кніга ад самага першага выдання вызначалася высокім мастацкім і паліграфічным узроўнем.



***Гравюра "Хрышчэнне Ісуса Хрыста" з "Малой падарожнай кніжкі", якая раней выкарыстоўвалася ў Нюрнбергу ў 1493 годзе***

# “АПОСТАЛ”

У сакавіку 1525 года выйшла з друку апошняя кніга Францыска Скарыны — “Апостал”. У ранейшыя часы гэта была даволі папулярная ў царкоўным ужытку кніга, якая нярэдка пашыралася ў выглядзе рукапісаў. Каштоўнасць друкаванага “Апостала” яшчэ і ў тым, што гэта першае яго выданне на царкоўнаславянскай мове. Перспектыўнасць і запатрабаванасць выдання Скарына цудоўна разумеў.

Таму ў тым жа месцы, дзе выйшла і “Малая падарожная кніжка”, — “у доме найстарэйшага бурмістра і шаноўнага мужа Якуба Бабіча” праз тры гады Францыск Скарына надрукаваў і сваё апошняе выданне.

Як і папярэдняе выданне, гэта кніга мела невялікі фармат (каля 16 см у вышыню) і даволі значны аб’ём (352 аркушы, або 704 старонкі). Магчыма, падчас вучобы і працы ў Еўропе Скарына пазнаёміўся з дзейнасцю знакамітага венецыянскага выдавецтва Альда Мануцыя, якое выпускала



*Апошняя кніга Скарыны — “Апостал”*







*Пераплёт "Апостала" са збораў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі*

высакаякасную кніжную прадукцыю — сапраўдныя шэдэўры эпохі Адраджэння. Менавіта гэта выдавецтва пачало выпуск цэлых серый кішэнных кніг — такіх самых, як віленскія выданні Францыска Скарыны. Невялікі памер "Апостала" зрабіў яго зручным для выкарыстання не толькі прадстаўнікамі духавенства падчас богаслужэння ці ў манастырскіх бібліятэках, але таксама і для чытання свецкімі людзьмі дома ці ў дарозе.

"Апостал" стаў адзіным выданнем беларускага першадрукара, у якім, нягледзячы на вялікі аб'ём, не было ніводнай буйной гравюры. Тым не менш у кнізе маецца вялікая колькасць прыгожых заставак, змешчаных перад кожным з раздзелаў. Іх колькасць ва ўсім выданні дасягае 288 адбіткаў, большасць з якіх шматразова паўтаралася (толькі 26 былі арыгінальнымі). Многія застаўкі характарызаваліся даволі высокім мастацкім узроўнем. Для такога буйнога выдання спатрэбілася таксама беспрэцэдэнтна вялікая колькасць ініцыялаў, альбо буквіц: ажно 429 адбіткаў з 85 дошак. Урачыстасць выданню надае таксама выкарыстанне друку адразу дзвюма фарбамі — чорнай і чырвонай.

Важна звярнуць увагу на змест "Апостала". Выданне гэта фактычна з'яўляецца працягам пражскіх выданняў Бібліі. Толькі калі ў Празе Скарына выдаваў кнігі Старога Запавету, то выдадзены ў Вільні "Апостал" уключаў большасць кніг Новага Запавету. Як вядома, Новы Запавет Бібліі змяшчае чатыры Евангеллі, кнігу Дзеяў апостальскіх, апостальскія пасланні і Адкрыццё Іаана Багаслова. Усе гэтыя кнігі, апрача Евангелляў, і былі выдадзены ў складзе "Апостала" Францыска Скарыны. Верагодна, беларускі асветнік улічыў, што незадоўга перад тым — у 1512 годзе — манах Макарый ужо выдаў кнігі царкоўнаславянскага Евангелля ў Валахіі. Такім чынам, у Празе Скарына выдаваў кнігі Старога Запавету, а ў Вільні закончыў выпуск кніг Новага Запавету. У выніку, як планавалася, усходнеславянскія народы павінны былі атрымаць поўнае выданне Бібліі.

# К филипписиемъ ∴ ряг

# Посланїи апостола павла

Сказание · Доктором францискомъ ско
ринѡю · К божией хвалѣ, починаетсѧ ∴





Наипервѣишая часть макидонїи,
суть филиппусы · ꙗко пишеть
водеянниехъ апⷭ҇льских глава ѕі
книмже былъ пришолъ первее бо
жїимъ промысленнемъ, святый апⷭ҇лъ па
велъ · и тамо пребываше дни некиа вогра
де колонїа · и многа внемъ посрѣда хрⷭ҇та
ради · биша бо его палицами, вкупе и си
лу снимъ, и вовергоша и вотемницу · Та
мо стража темници совсем домомъ его,
и лїдию жену, и многы ины навернулъ на
веру хвⷭ҇у · Ѡсемъ ширеи водеянїи знайде
ши ∴ Сие слышавше павла поимано
го вриме · послаша кнему епафродитомъ,

*Старонка з фрагментам
паслання апостала Паўла*

***Адна са старонак "Апостала" з незвычайнай пабудовай тэксту***



ПОСЛАНИЕ :~
Якоже и подобаетьми глати. Да бѹдете
пака и вы, иже о мнѣ что дѣю. вса вам
скажеть тѹхикъ, возлюбленыи брать. и
вѣрныи слѹжитель о гдѣ. егоже по
слахъ къвамъ нассеистое, да
бѹдете что са снами деет
и оутешить серца ваша
миръ братїи, и любов
свѣрою. ѿбога и
ѿца гда наше
го іса хрта
блгодать
совсеми люба
щими іса хрта
вонеистлѣнїи
аминь :~

Доконано естъ коресенемъ посланне
светго апла павла. Працею доктора
франциска скорины сполоцька града :~

"Апостал" стаў апошняй кнігай, выпушчанай беларускім першадрукаром. Прынамсі, іншыя яго выданні нам сёння не вядомы. Але вельмі сімвалічна, што пераемнікі Францыска Скарыны — Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец — менавіта з гэтай кнігі і пачалі сваю дзейнасць. Іх першым маскоўскім выданнем стаў менавіта "Апостал".

Сёння ў свеце вядома не менш 10 асобнікаў гэтай кнігі, аднак усе яны захаваліся толькі ў выглядзе асобных, большых ці меншых, фрагментаў. Яны зберагаюцца ў бібліятэках Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільнюса, Львова і Лондана.



СЕНТЕВРИ :~

СЕНТЕВРИ :~

***"Апостал" таксама быў надрукаваны адразу дзвюма фарбамі — чорнай і чырвонай***



# ТЭХНАЛОГІЯ СТВАРЭННЯ ЦУДА



# ПАПЕРА

Сваe кнігі Францыск Скарына друкаваў, як гэта робяць і сёння, на паперы. Аднак папера ў тыя гады была іншай, адрознівалася ад той, якой мы карыстаемся сёння.

Папера — гэта спецыяльна выраблены тонкі і гнуткі валакністы матэрыял, які нам, звычайна, даводзіцца бачыць у выглядзе асобных аркушаў, прыдатных для пісьма і друкавання. Вынаходства паперы дазволіла стварыць універсальны зручны і танны матэрыял для пісьма і друкавання, які хутка замяніў сабою ўсе папярэднія — пергамент, папірус, бяросту, гліняныя і навошчаныя таблічкі.

Вынаходства паперы было зроблена ў Кітаі. Спачатку падобны да паперы матэрыял там рабілі з шоўку, потым — з пянькі. І нарэшце ў 105 годзе нашай эры з'явілася ўласна папера. Яе вынаходнікам быў Цай Лунь, які растоўк разам валокны шаўкоўніцы, попел спаленых дрэў, анучы і пяньку. Гэту сумесь ён разбавіў вадою, а пасля працэдзіў праз бамбукавае сіта. Вада працякала праз дзіркі ў сіце, а вільготная сумесь раўнамерна асядала на ім тонкім слоем. Потым атрыманыя слаі сушыліся на сонцы і раўняліся пры дапамозе камянёў. У рэшце рэшт атрымліваліся трывалыя аркушы паперы.

Усе далейшыя стагоддзі працэс вырабу паперы ўдасканальваўся. Для павышэння трываласці сталі дадаваць крухмал, клей, а для атрымання паперы пэўнага колеру — натуральныя фарбавальнікі. Каля 600 года тэхналогія вырабу паперы стала вядомай у Карэі, а ў 625 годзе — у Японіі. Лічыцца, што пасля Таласкай бітвы 751 года праз кітайскіх ваеннапалонных новая тэхналогія трапіла да арабаў, а праз іх у 11—12 стагоддзях папера з'явілася ў Еўропе.

Вялікае пашырэнне вытворчасці паперы было звязана з узнікненнем



*Выраб паперы ў Кітаі*



*Папяровы млын у Нюрнбергу (1493)*



*Праца папяровага млына (1623)*

кнігадрукавання. Першыя інкунабулы друкаваліся нярэдка на пергаменце, але ў сувязі з павелічэннем аб'ёмаў кніжнай вытворчасці яго перастала хапаць. У выніку вытворчасць паперы пачалі больш актыўна механізаваць, па ўсёй Еўропе з'явіліся так званыя папяровыя млыны — сапраўдныя фабрыкі, дзе пры дапамозе сілы ракі малолі падрыхтаваны матэрыял, рабілі папяровую масу і адлівалі аркушы паперы.

У 1799 годзе Луі-Нікаля Рабер з Францыі вынайшаў першую паперарробчую машыну, якая дазволіла максімальна механізаваць выраб паперы. З таго часу гэта тэхналогія прайшла доўгі шлях аўтаматызацыі вытворчасці і дасягнула высокай ступені развіцця ў 20 стагоддзі.

На беларускіх землях пашырэнне трапічнай (выробленай з тканіны і іншых матэрыялаў) паперы адбывалася ў 14—15 стагоддзях. І ўжо даволі хутка яна фактычна выцесніла сабою з кніжнага і дзелавога пісьменства пергамент.

Спачатку папера, неабходная для справаводства, рукапісаў ды нават кнігадрукавання, завозілася з-за мяжы. Але ўжо ў першай палавіне 16 стагоддзя распачалася праца па стварэнні ў Вялікім Княстве Літоўскім уласных папяровых млыноў.

Францыск Скарына пачаў друкаваць свае кнігі ў Празе, дзе традыцыі вырабу паперы былі ўжо даволі развітымі. Спачатку паперу для чэшскіх друкароў завозілі з Германіі, у прыватнасці з Аўгсбурга і Нюрнберга. Як раз напярэдадні прыезду Скарыны ў



*Выраб паперы (гравюра 1689 года)*

Прагу тут з'явіліся першыя ўласныя паперні. Аднак асноўная маса паперы па-ранейшаму завозілася з нямецкіх, французскіх і італьянскіх фабрык.

Большасць пражскіх выданняў беларускага асветніка надрукавана на даволі грубай таннай паперы, верагодна, чэшскай вытворчасці. На ёй амаль ва ўсіх кнігах адсутнічаюць філіграні — водныя знакі, якія бачныя пры праглядзе паперы на святло. Сёння такія вадзяныя знакі можна ўбачыць на грашовых банкнотах, а ў 15—18 стагоддзях яны сустракаліся паўсюдна ў вытворчасці паперы для друку кніг. Па такіх філігранях можна было даволі ўпэўнена ідэнтыфікаваць месца і час вырабу паперы. А гэта ў сваю чаргу дапамагала вызначыць месца і час друкавання кніг на гэтай паперы.

У выпадку выданняў Францыска Скарыны мы амаль не можам выкарыстаць гэтую падказку, бо філіграні прысутнічаюць толькі ў першай яго кнізе — Псалтыры. Філіграні там выглядаюць як галава вала (быка) з Т-падобным знакам між рагамі або як



*Папяровы прэс*

крыж на шары. Падобныя знакі выкарыстоўваліся ў аўгсбургскіх выданнях канца 15 — пачатку 16 стагоддзя, а таксама ў некаторых іншых выданнях.

У віленскіх выданнях Скарыны філіграні сустракаюцца ўжо больш



*Узноўленая тэхналогія ў Музеі паперы ў Базелі (Швейцарыя)*

пяровы млын ад пачатку меў не прыватны, а дзяржаўны характар. Цалкам магчыма, што выдавецкая дзейнасць асветніка з Полацка паўплывала на ўзнікненне ў краіне вытворчасці ўласнай паперы. У далейшым папяровыя млыны былі заснаваны ў Нясвіжы, Бакштах, Быцені, Відзах, Гальшанах, Дуброўне, Дзятлаве, Еўі, Заслаўі, Лыскаве, Любчы, Слуцку, Смаргоні, Супраслі, Уздзе і інш.



*Філіграні на паперы выданняў Францыска Скарыны*

сістэматычна, што сведчыць пра яго большыя фінансавыя магчымасці на Радзіме і магчымасць набыць паперу лепшай якасці. Вельмі важна адзначыць, што якраз у перыяд друкарскай дзейнасці Францыска Скарыны ў Вільні ўзнікае першая паперня. Па розных звестках гэта адбылося каля 1522—1524 гадоў. Прычым віленскі па-



*Папера ручной вытворчасці*

# ДРУКАРСКІ ВАРШТАТ

Друкарскі варштат, або ручны друкарскі прэс, уяўляе сабой механічны станок, з дапамогай якога тэкст і малюнкі праз спецыяльную друкарскую форму пераносяцца на паперу, пергамент, тканіну ці іншы матэрыял. Прычым такім спосабам можа быць выраблена вялікая колькасць экзэмпляраў з адной формы.



*Друкарскі варштат Ёгана Гутэнберга (версія)*

Вынаходнікам друкарскага варштата ў Еўропе лічыцца Ёган Гутэнберг. Упершыню падобная прылада была выкарыстана ім у сярэдзіне 1440-х гадоў. Лічыцца, што ў аснову яго вынаходства леглі аналагічныя механізмы віннага прэса і прэса для вырабу паперы. Праз паслядоўнікаў Ёгана Гутэнберга яго тэхналогія друку вельмі хутка распаўсюдзілася па ўсёй Еўропе, а потым — і па ўсім свеце.

Класічны ручны варштат прадугледжвае стварэнне друкарскай формы з дапамогай наборных шрыфтоў (для тэксту) і гравіравальных дошак (для выяў). Іх закладвалі ў варштат і наносілі на іх фарбу. Для зручнасці працы форма размяшчалася ў спецыяльнай рухомай карэтцы, якая магла заязджаць пад прэс. У далейшым на друкарскую форму накладваўся аркуш паперы, які прыціскаўся да яе спецыяльным механізмам. Для большай трываласці друкарскі варштат звычайна прымацоўвалі і да падлогі, і да столі, што мы можам бачыць на многіх старажытных гравюрах. Гэта было неабходна для мінімізацыі ваганняў, якія маглі выклікаць змазванне фарбы пры друку.



*Узноўлены ў наш час друкарскі варштат Ёгана Гутэнберга (версія)*



***Друкарскі варштат у Музеі Плантэна-Марэтуса ў Антверпене***

Галоўнай часткай друкарскага прэса быў драўляны (а пазней металічны) шруб з націскным рычагом. Знізу да яго мацавалася прыціскная пліта. Паваротам рычага шруб разам з плітой можна было падняць або апусціць. Тым самым аркуш паперы раўнамерна прыціскаўся да друкарскай формы і на ім адбівалася патрэбная выява. Пасля завяршэння друку і пад'ёму прыціскной пліты карэтка з формай і аркушам выязджала назад да майстра, які здымаў гатовы аддрукаваны аркуш і паўтараў працэдуру нанова: наносіў фарбу, клаў новы аркуш, закрываў карэтку і запускаў яе пад прыціскную пліту. Такім чынам з адной наборнай формы атрымлівалі сотні адбіткаў.



***Еўрапейскі друкарскі варштат. Гравюра 1520 года***

Падобная праца ў друкарнях ішла бесперапынна ўвесь дзень. Аркушы даставаліся з-пад прэса, вывешваліся на прасушку, пасля чаго зноў закладваліся, каб атрымаць адбітак на адваротным баку. У буйных друкарнях існаваў падзел працы: адзін рабочы займаўся наборам літар, другі складваў з блокаў літар і гравюр друкарскую форму, трэці закладваў форму ў варштат, наносіў адмысловымі скуранымі падушкамі фарбу і прыціскаў паперу, чацвёрты даставаў надрукаваныя аркушы і правяраў якасць друку. Акрамя гэтых асноўных аперацый было мноства дадатковых: складваць прасушаныя аркушы ў стосы, раскладваць іх для пераплёту, перамешваць фарбу, насіць ваду і гэ-

*Друкарскі працэс*

так далей. Гэта звычайна было справай вучняў. У пачатку 16 стагоддзя ў буйных друкарнях на кожны станок прыходзілася ў сярэднім па 5 рабочых.

Менавіта такім шляхам адбывалася друкаванне кніг Францыска Скарыны. Верагодна, у Празе беларускі асветнік скарыстаўся магчымасцямі адной з мясцовых друкарняў, якія ўжо мелі багаты вопыт падобнай дзейнасці. Тут ён засвоіў асноўныя прыёмы і метады кнігадрукавання, што спатрэбілася для заснавання першай друкарні ў Вялікім Княстве Літоўскім. Магчыма, у Празе Скарына замовіў друкарскае абсталяванне для гэтай друкарні. Па іншай версіі яно магло быць выраблена ў самой Вільні еўрапейскімі майстрамі ці па прывезеных Скарынам чарцяжах і схемах.

Ужо пасля эпохі Францыска Скарыны на беларускіх землях былі заснаваны дзясяткі новых друкарняў, якія ствараліся не толькі ў буйных гарадах, але і ў невялікіх мястэчках ды прыватных маёнтках. У 16—18 стагоддзях друкарскія варштаты працавалі ў Вільні, Заблудаве, Брэсце, Нясвіжы, Заслаўі, Лоску, Любчы, Мураванай Ашмянцы, Еўі, Слуцку, Куцейне, Буйнічах, Магілёве, Полацку, Супраслі і інш.

Эфектыўнасць друкарскага варштата пацвярджалася тым фактам, што ён без істотных змен праіснаваў больш за 300 гадоў. У 1811 годзе







*Рэканструкцыя друкарні ў Полацкім музеі кнігадрукавання*

ў Англіі пачалося друкаванне на паравым прэсе, які дазваляў адначасова друкаваць на абодвух баках аркуша. А ў 1833 годзе ў ЗША быў вынайдзены ротарны прэс, які дазволіў друкаваць мільёны старонак у дзень. Тым не менш вынаходства друкарскага варштата стварыла ўмовы для пашырэння друкаванага слова па ўсім свеце, паўплывала на развіццё інтэлектуальнай культуры і фарміраванне грамадства Новага часу.

# ШРЫФТЫ. НАБОР

Шрыфтам называюцца літары, прызначаныя для перадачы на пісьме ці пры друку розных знакаў алфавіта, лічбаў, знакаў пунктуацыі і спецыяльных сімвалаў, а таксама прабельных элементаў.

Для друкавання тэксту спачатку выкарыстоўваліся цэльнагравіраваныя дошкі, з якіх друкавалася цэлая старонка. Але для друку кожнай новай старонкі неабходна было выразаць новую дошку, што было дорага і доўга.

Адным з найважнейшых вынаходстваў Ёгана Гутэнберга сталі так званыя "рухомыя літары" — наборныя шрыфты, з якіх можна было скласці любы тэкст. Адбіткі рабілі з друкарскай формы, якая састаўлялася з літар — металічных брусочкаў, на верхнім тарцы якіх быў рэльефны люстэркавы адбітак таго ці іншага знака.

Для складання з асобных літар выкарыстоўваліся наборныя касы — нахіленыя сталы з адкрытымі скрынямі для аднолькавых літар. Для зручнасці наборныя касы часта падзялялі на часткі для літар розных памераў,



*Майстэрня па вырабе шрыфтоў паводле гравюры 1549 года*







*Майстар адлівае літары*

якія раскладвалі або па алфавіце, або па частотнасці выкарыстання (ад цэнтра). Складаннем з асобных літар друкарскай формы займаліся майстры-наборшчыкі.

У выданнях Францыска Скарыны выкарыстоўваліся шрыфты двух асноўных малюнкаў (гарнітур) — пражскі і віленскі. У пражскіх кнігах Бібліі выкарыстаны 6 асноўных тыпаразмераў шрыфту: вялікі, сярэдні, малы прапісны, радковы, з надрадковымі знакамі і лігатурны. Вышыня радка (кегль) — 7,5 мм. У віленскай гарнітуры ўжыты 4 тыпаразмеры: прапісны, радковы, з надрадковымі знакамі, лігатурны. Для загалоўкаў і калонтытулаў віленскіх выданняў Скарыны выкарыстаны малы прапісны шрыфт пражскай гарнітуры. Але ў цэлым віленскі шрыфт адрозніваецца ад пражскага. Ён мае таксама і меншы памер: вышыня радка дасягае толькі 5,3 мм.

Малым прапісным шрыфтам былі набраны загалоўкі асобных тэкстаў, якія пачыналіся з літар вялікага прапіснога шрыфту. Малы прапісны шрыфт ужываўся таксама для друку першых літар сказа пасля вялікіх круглых кропак, першых літар некаторых слоў, значэнне якіх Францыск Скарына хацеў падкрэсліць (напрыклад, “Царь”, “Муж”, “Доктор”), першых літар уласных імёнаў і інш. Сярэдні прапісны шрыфт выкарыстоўваўся для вылучэння фразы ў тэксце, а таксама набору назваў на тытульных аркушах, загалоўных тэкстаў, абазначэнняў глаў, калонтытулаў.

Шрыфты выданняў Скарыны маюць шэраг асаблівасцей. У іх ён не выкарыстоўваў курсіў, які адносна нядаўна быў вынайдзены ў еўрапейскім кнігадрукаванні: усе літары тут маюць прамыя абрысы. У большасці скарынаўскія літары не маюць засечак — папярочных элементаў з хвосцікамі на канцах асноўных штрыхоў літар. Гэта спрашчала ўспрыняцце і аблягчала чытанне тэксту.

З гэтай жа мэтай Францыск Скарына пазбягаў выкарыстання многіх складаных літар старажытнага кірылічнага алфавіта (напрыклад, “зяло”), а таксама пашыраных у царкоўнаславянскім пісьменстве грэчаскіх літар (“ксі”,

"псі"). Мінімальна выкарыстоўваў ён і ётаваныя галосныя, якія можна было перадаць і больш зразумелымі і прывычнымі нам сёння літарамі. Некалькі менш, чым папярэднія славянскія друкары, Францыск Скарына карыстаўся парнымі знакамі (знакамі розных абрысаў для абазначэння адной літары). Шрыфты Скарыны былі больш стройнымі, мелі значна менш вынасных элементаў, якія зверху і знізу выходзілі за край радка, як гэта часта было ў царкоўнаславянскім пісьменстве і раннім кнігадрукаванні. Вялікія прапісныя літары першых беларускіх выданняў нагадваюць грамадзянскі шрыфт, якім мы карыстаемся сёння. Абрысы некаторых літар маюць непаўторны, наватарскі характар (напрыклад, "аз", "чэрвь", "Ю", "ша", "шта"). У выніку шрыфты Скарыны вельмі нагадваюць сучасныя. Яны даволі простыя для ўспрымання і могуць быць прачытаны нават неспрактыкаваным чытачом.

Характэрнай асаблівасцю шрыфтоў Францыска Скарыны з'яўляецца выкарыстанне літар, якія былі адліты адразу з надрадковымі знакамі. Гэта дазваляла адмовіцца ад міжрадковага інтэрвалу, дзе асобна друкаваліся спецыяльныя знакі. Пачынальнік славянскага друку Швайпольт Фіёль

*Наборная каса з літарамі*





*Наборны стол з літарамі ў Музеі Плантэна-Марэтуса ў Антверпене*



і пазнейшыя маскоўскія друкары выкарыстоўвалі надрадковыя знакі асобна ад літар, што значна ўскладняла працэс набору і рабіла знешні выгляд тэксту вельмі груваcткім. Тэхналогія набору ў Скарыны была значна прасцейшай, чым у Фіёля. Але яна вымушала адліваць вялікую колькасць аднайменных літар з рознымі надрадковымі элементамі. Аналагічную тэхналогію выкарыстоўваў і чарнагорскі друкар Макарый.

Шрыфт выданняў Францыска Скарыны ўключаў таксама розныя знакі прыпынку (а яны яшчэ толькі пачыналі выкарыстоўвацца ў беларускім пісьменстве). Сярод іх — вялікая кропка ў цэнтры радка, пасля якой ставіўся вялікі прабел (пазначала канец сказа), а таксама коска і двукроп'е. Выкарыстоўвалася і так званая сцішыца (двукроп'е з хвалістай лініяй усярэдзіне) для дэкарыравання і абазначэння канца прадмоў і пасляслоўяў, назваў на тытульных аркушах, нумароў аркушаў кнігі.

Складана сказаць, ці сам Скарына прыдумаў абрысы літар сваіх шрыфтоў, але непасрэдных аналогій у славянскім кнігадрукаванні і нават пісьменстве мы не знаходзім. Верагодна, вобраз гэтых шрыфтоў быў распрацаваны на аснове класічнага кірылічнага паўустава са зменамі, якія ўнеслі як Скарына, так і еўрапейскія майстры, якія адлівалі формы для шрыфтоў. У той жа час у малюнку шрыфтоў першых беларускіх выданняў відавочны адыход ад сярэдневяковага паўустава і готыкі ў бок рэнесанснага шрыфту антыква. Існуюць меркаванні, што вырабіць шрыфты Францыску Скарыну

маглі ў Венецыі, у адным з гарадоў Германіі ці ў самой Чэхіі.

Набор друкарскіх палос у Скарынавых выданнях выкананы з вялікім майстэрствам. Раўнамерна вытрыманая шырыня радкоў станоўча вылучае выданні беларускага першадрукара ў параўнанні з многімі папярэднімі славянскімі першадрукамі. Пра высокую якасць друку кніг Скарыны сведчыць адсутнасць плям фарбы на палях, у прамежках паміж словамі і радкамі.

Прыгажосці Скарынавым выданням дадае выкарыстанне тэхнікі двухколернага друку. Яна сустракаецца ў двух пражскіх выданнях (у тым ліку на тытульным аркушы да ўсёй Бібліі) і вельмі актыўна — у публікацыях віленскага перыяду. Гэта надавала выданням Скарыны ўрачыстасць, хаця і патрабавала больших выдаткаў і вялікай уважлівасці друкароў. Тэкст на старонцы друкаваўся ў два прагоны з адной формы. Яе прыўздымалі на брусках, фарбавалі і рабілі адбітак чырвоных элементаў, а пасля — чорных. Пры гэтым неабходна было пазбегнуць зруху чырвоных выяў адносна чорных і дубліравання адных выяў абедзвюма фарбамі.



*Наборная шрыфтавая дошка сярэдневяковага выдання*



*Наборшчык за працай. Гравюра Яна ван дэ Вельдэ (1626—1628)*

Такім чынам, шрыфты Францыска Скарыны з'яўляюцца выключным дасягненнем славянскага кнігадрукавання. Упершыню ў кірылічнай кнізе







КАНОНЪ

Слава :~

Ѡ всякоѥма избавен тесноты, просъ
трайство ꙗко имаши милости николае,
тѣснымъ шествовавый къгосподу
путемъ :~

Ины Богороди :~

Н всяковрема тебе призываю, дво бра
щую ма помощницу, избавляющую ма страш
ныи мукъ всякого озлобления пречтаꙗ :~

ТУ НАЧЬНИ ГЛАГОЛАТИ :~
Кондаки и икосы, великому чудотвор
цу на мори, на земли, и на воздусе. пресла
вътйшему оцу николе, епископу
мирликийскихъ :~

СТЛЮ НИКОЛЕ 97

Песнь з Ирмосъ :~

Телу златому :~

Огню искушенна всякъ день при
мешаюса отче николае, посреди
сетей хожу ꙗко птица подъ твои щед
рым покровъ притекаю невредима сохра
ни, благаго моля бога гда :~

Глаголъ моихъ слышавъ песни отче ни
колае, потщиса прийти напомощь, обу
реваемому скорьбми, и нужьдами житейск
ими, и бесовьскими озлоблении, ꙗко
да ... пою предъстатель
свое твое :~

Слава :~

И же древле ꙗвилса еси восне царю не
повинныя хотащу оумертвити избав
ляи напастей ма избавен находащихъ
всегда, и недугъ телесныхъ, и душевъ

*Двухколерны друк у выданні Францыска Скарыны*

ім былі ўжыты фігурны набор тэксту на старонках і выкарыстана нумарацыя аркушаў, а таксама ўведзены шрыфт аднаго малюнка розных памераў. Беларускі асветнік зрабіў шмат для рэфармавання кірылічнага алфавіта, яго спрашчэння і ўдасканалення, што ў далейшым было выкарыстана для перадачы тэкстаў на старабеларускай мове. Відавочным з'яўляецца яго ўплыў на шрыфты выданняў Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага, а магчыма таксама на ўзнікненне грамадзянскага шрыфту, якім мы карыстаемся сёння.

# БУЙНЫЯ ГРАВЮРЫ

Сярод усіх кірылічных выданняў свету, надрукаваных у 15—16 стагоддзях, кнігі Францыска Скарыны вылучаюцца найбагацейшай мастацкай аздобай. Першае, што звяртае на сябе ўвагу, калі бярэш іх у рукі, — прыгожыя вялікія тэматычныя гравюры, а таксама безліч іншых гравіраваных выяў.

Гравюрай называецца адбітак пэўнай выявы, зроблены са спецыяльна вырабленай дошкі. Прычым дошка можа быць драўлянай, металічнай, палімернай (лінолеум) ці вырабленай з іншых матэрыялаў. Найбольш пашыранай у часы ўзнікнення беларускага кнігадрукавання тэхнікай была ксілаграфія — гравюра з драўлянай дошкі.

Ксілаграфія ўзнікла на Старажытным Усходзе і пашырылася ў Заходняй Еўропе ў 14—15 стагоддзях. З канца 15 стагоддзя ксілаграфія пачала шырока распаўсюджвацца і ў чэшскім кнігадрукаванні. Багата ілюстраваныя выданні выпускала друкарня пражскага купца, члена гарадской рады Яна Севярына і яго кампаньёна Яна Кампа.

Сутнасць ксілаграфіі заключалася ў наступным. На адшліфаваную паверхню дошкі наносіўся малюнак, пасля чаго дошка вакол ліній малюнка абразалася з усіх бакоў вострым нажом, сам жа штрых лініі заставаўся некранутым (адсюль адна з назваў падобнай гравюры — “абразная”). Фон (пустое месца між лініямі) выразаўся шырокімі нажамі ці стамескамі. Пасля гэтага на абрэзаныя штрыхі дошкі накатвалася валікам фарба, якая і



*Гравёр за вырабам дрэварыту*

*Графічны партрэт Францыска Скарыны*



пераносілася на паперу пры яе прыцісканні да дошкі. Менавіта такія гравюры — ксілаграфіі ці, як іх яшчэ называюць, дрэварыты — мы бачым у кнігах Францыска Скарыны.

У выданнях беларускага першадрукара змешчаны прыгожыя гравюры, пры стварэнні якіх выкарыстаны як традыцыі афармлення рукапісных славянскіх кніг, так і (нават у большай ступені) практыка афармлення сучасных яму нямецкіх і чэшскіх друкаваных кніг. Сінтэз нацыянальных і еўрапейскіх мастацкіх традыцый дазволіў дасягнуць найвышэйшага ўзроўню мастацкай аздобы кнігі, а таксама рэалізаваць цэлы шэраг арыгінальных аўтарскіх задум.

Фактычна Скарына быў першым у кірылічным кнігадрукаванні, хто здолеў удала выкарыстаць графічнае мастацтва для аздобы кнігі. Швайпольт Фіёль і балканскія друкары рабілі ў гэтым кірунку толькі першыя

Данийлу седмѡщему сочивы принесе Авваку́мъ обѣд



Книги светого пророка божиѧ Даниила починаютъсѧ. Зуполъне выложены на рускии ѧзыкъ доктором Франъциском Скориною изъ славнаго града Полоцька. Напредъ богу кочти, и людем посполитым к науце.

Расфарбаваная ад рукі гравюра з Кнігі пракрока Даніїла






*Гравюра на тытульнай старонцы Кнігі Песня песняў*

крокі і амаль не выкарыстоўвалі гравюру як сродак перадачы зместу кнігі ў яркіх мастацкіх вобразах. Скарына ж гэта зрабіў надзвычай удала.

На думку мастацтвазнаўцаў, дасягнуты слаўным палачанінам узровень мастацкага афармлення кнігі не быў пераўзыдзены ў царкоўнаславянскім кнігадрукаванні ажно да сярэдзіны 18 стагоддзя, калі дасягнула росквіту мастацтва гравюры на метале. У яго выданнях прысутнічаюць ілюстрацыі амаль усіх відаў і жанраў: партрэт, сюжэтна-тэматычныя гравюры, выявы прыкладнога характару.

Агульнавядомым з’яўляецца партрэт беларускага першадрукара, які быў змешчаны ў дзвюх яго кнігах. Гэта ўнікальны твор мастацтва. На думку даследчыкаў, гэта гравюра — “выяўленча-вобразны жыццяпіс асветніка, яго біяграфія, створаная натхнёным разцом; першы гравюрны партрэт у сусветным кірылічным друкарстве, найбольш арыгінальны дрэварыт у Скарынавай Бібліі, які паводле задумы, выяўленчай стылісты-



*Гравюра "Бітва архангела Міхаіла" Альбрэхта Дзюрэра (1498)*

кі і мастацкіх вартасцей прыкметна розніцца ад усіх астатніх ілюстрацый; адзін з самых ранніх свецкіх, рэалістычных партрэтаў у мастацтве Усходняй Еўропы".

Здзіўляе смеласць выдаўца, бо змяшчэнне ў сакральнай кнізе — у Біблії — партрэта свецкай асобы, перакладчыка і выдаўца з'яўляецца беспрэцэдэнтным актам. Распаўсюджванне Біблії здаўна знаходзілася пад кантролем царквы, пры гэтым нават імя перапісчыка звычайна не пазначалася ў кнізе. Казаць жа пра змяшчэнне партрэта свецкай асобы ў Біблії зусім не прыходзілася. Гэта выглядала як дзёрзкі выклік царкоўнай традыцыі.

Свае партрэты не змяшчалі ў выданнях ні Гутэнберг, ні Фіёль, ні Макарый, ні пазнейшыя Фёдараў і Мсціславец. Гэта адзін з самых ранніх, калі не першы, з партрэтаў друкароў наогул. У гэтым сэнсе Скарына быў, бясспрэчна, яркім прадстаўніком эпохі Адраджэння, гуманістам, які не баяўся сказаць сваё імя і высока цаніў чалавечую годнасць. Ён паўстае перад намі ў новым абліччы. Скарына не прадпрымальнік, як Фіёль, і не манах, як Макарый. Ён — гуманіст і асветнік, інтэлектуал, вучоны, пісьменнік, перакладчык, рэдактар. Ён ідэолаг сваёй эпохі, а не другасная асоба. Ён настаўнік і можа сабе дазволіць павучаць іншых. Ён грамадскі дзеяч, і яму ёсць што сказаць. І ён свае слова кажа.

Апрача ўсяго іншага, гэты партрэт вельмі змястоўны: ён дае нам інфармацыю пра аблічча асветніка, яго ўзрост, характар, род заняткаў, асяроддзе і шматбаковыя сувязі.




*Гравюра з Кнігі Быцця Францыска Скарыны*

У пражскіх выданнях Скарыны зафіксавана (разам з паўторнымі адбіткамі) 47 гравюрных ілюстрацый. У большасці з іх спалучаюцца стылі готыкі і рэнесансу. Амаль усе яны ілюструюць змест кніг, у якіх змешчаны, — перадаюць найбольш яркія старонкі Старога Запавету Біблії. Гэта тлумачыцца іх размяшчэннем на першай



*Гравюра "Хрыстос у храме" з "Малой падарожнай кніжкі"*

(тытульнай) старонцы кніг (у пераважнай большасці выпадкаў). Пакольki выданні на той час прадаваліся без пераплётаў, то падобная выява на першай старонцы адразу ж кідалася ў вочы, магла прывабіць пакупніка і хутка распавесці пра змест дадзенай кнігі.

Большасці гравюр у выданнях Скарыны ўласціва гарманічная цэласная кампазіцыя. Малюнкі то некалькі ўмоўныя і стылізаваныя, то надзвычай дакладныя і рэалістычныя. Гравюры створаны на ўзор еўрапейскага мастацтва. Напрыклад, гравюры "Тройца" і "Блаславенне" створаны на ўзор гравюр Альбрэхта Дзюрэра з серыі "Апакаліпсіс" 1497—1499 гадоў, "тлумачальныя" гравюры — "Сусветнай хронікі" Хартмана Шэдаля 1493 года.

Мастацкая аздоба віленскіх выданняў у параўнанні з пражскімі першадрукамі больш сціплая. Буйных тэматычных гравюр у "Апостале" 1525 года няма зусім, а ў "Малой падарожнай кніжцы" іх пяць.

Паходжанне гравюр ацаніць няпроста. Большасць даследчыкаў лічаць, што яны былі спецыяльна зроблены для друку кніг Скарыны і тлумачаць гэта адпаведнасцю іх памераў набору кніг. Але выкарыстаныя Скарынам памеры кніг — у чацвёртую і восьмую долю аркуша — былі вельмі папулярнымі ў Еўропе, што дазваляла выкарыстоўваць гравіравальныя дошкі іншых друкарняў.

Нягледзячы на пашыраны міф, Францыск Скарына, відавочна, не быў гравёрам. Гэта быў складаны і адметны від дзейнасці, якім займаліся адмыслова навучаныя майстры. Безумоўна, некаторыя гравюры (як, напрыклад, партрэт асветніка) былі выраблены спецыяльна для выданняў Скарыны, а магчыма, і па яго эскізах. Пра гэта сведчыць, сярод іншага, прысутнасць на большасці з іх сігнета Скарыны (выявы сумешчаных сонца і паўмесяца).

Але пашыранай практыкай таго часу было выкарыстанне ў друкарнях

гравіравальных дошак з папярэдніх выданняў. Гэта мы сустракаем і ў нашым выпадку. Ужо ў самым першым выданні Скарыны — Псалтыры 1517 года — змешчана гравюра "Радаводнае дрэва Ісуса Хрыста", якая ўжо выкарыстоўвалася ў пражскіх выданнях 1498 і 1512 гадоў. Тое ж мы бачым і ў віленскі перыяд дзейнасці. Не менш дзвюх з пяці буйных гравюр "Малой падарожнай кніжкі" ("Хрыстос у храме" і "Хрышчэнне Ісуса Хрыста") зроблены з клішэ, якія ў 1493 годзе выкарыстоўваліся для друку "Сусветнай хронікі" Хартмана Шэдаля ў Нюрнбергскай друкарні Антона Кобергера. У сваю чаргу некаторыя гравіравальныя матэрыялы Скарыны яшчэ доўгі час выкарыстоўваліся іншымі беларускімі друкарамі.


Исус навин ведеть людей Ізраилевы через Іордан

Книги Исуса навина. еже от еврей называются, Егошуа бин нун. в полне выложены на руский язык. доктором Франциском Скориною. из славнаго града Полоцька. Богу ко чти и людем к науце починаются.

*Рукапісная копія гравюры з кнігі Францыска Скарыны, вырабленая ў 19 стагоддзі*

# ГРАФІЧНАЯ АРНАМЕНТЫКА

Упершыню ў кірылічным кнігадрукаванні Францыскам Скарынам быў уведзены тытульны аркуш. Кожная з кніг Бібліі мела свой уласны тытул, але быў яшчэ і адзін агульны тытульны аркуш для ўсіх пражскіх кніг Бібліі. Гэты тытульны аркуш сёння вядомы многім беларусам і вылучаецца высокім мастацкім узроўнем. Ён складаецца з дэкаратыўнай рамкі і тэксту з назвай выдання. Рамка надрукавана чорнай фарбай з чатырох дошак. Левая і правая вертыкальныя часткі рамкі запоўнены раслінным арнаментам, а ў верхняй і ніжняй рамках асноўнае



*Тытульны аркуш Бібліі Францыска Скарыны*



HYPER=
ASPISMVS SIVE PRO=
pugnatio Apologiæ Ambrosij
Pelargi, quo Eucharistiæ sacrifi=
cium ab Oecolampadiana ca=
lumnia strenue asseritur.

Danielis. II.
Impij auferent iuge sacrificium, populus
autem cognoscens deum suum, obtinebit.
Legisse iuuabit.
BASILEAE.

*Тытульны аркуш базельскага выдання 1528 года*



ПОЧІНАЮТСЯ
АКАѲІСТЫ НА
ВСЮ НЕДЕЛЮ
ПЕРВЫ ЖИВО
НОСНОМУ ГРО
БУ ГОСПОДНЮ
ВЪ НЕДЕЛЮ

*Тытульны аркуш, складзены з асобных віньетак*

месца займаюць геральдычныя шчыты. Назва кнігі, змешчаная ўнутры рамкі, надрукавана чырвонай фарбай. Тытульны аркуш характарызуецца прыгожым спалучэннем колераў, агульнай цэласнасцю і гарманічнасцю кампазіцыі.

Усе выдадзеныя Скарынам кнігі Бібліі таксама мелі ўласныя тытульныя аркушы. На іх звычайна змяшчаліся вялікая тэматычная гравюра, назва кнігі, а таксама звесткі пра месца і час выдання, называліся імёны перакладчыка і выдаўца. Апошняе з'яўляецца рэдкім выпадкам у кнігах рэлігійнага зместу.





***Графічная арнаментыка "Малой падарожнай кніжкі"***

Важным элементам мастацкай аздобы кніг Францыска Скарыны служылі застаўкі, віньеткі і канцоўкі, якімі асабліва багатыя віленскія выданні асветніка. У заключнай частцы “Апостала”, напрыклад, на 32 старонках змешчана 47 заставак, якія былі зроблены з 19 гравіравальных дошак. Прычым 4 з іх аддрукаваныя чырвонай фарбай. Для параўнання, у пражскіх выданнях Скарыны мы знаходзім 23 застаўкі пяці розных малюнкаў.

Застаўкі звычайна папярэднічаюць асобным раздзелам кнігі і змяшчаюцца ў верхняй частцы першай старонкі раздзела. Найчасцей яны маюць

прамавугольную форму, але, напрыклад, у Псалтыры 1517 года выкарыстана прыгожая П-падобная застаўка.

Верагодна, застаўкі ў выданнях Скарыны з'явіліся пад ўплывам царкоўнаславянскага пісьменства, бо ў заходнееўрапейскай кнізе яны сустракаюцца даволі рэдка. З іншага боку, ва ўсходнеславянскіх рукапісах найбольш пашыранымі з'яўляюцца застаўкі, складзеныя з элементаў геаметрычнага або расліннага арнаментаў, у той час як у Францыска Скарыны мы знаходзім шмат фігурных і сюжэтных заставак. Апошняя асаблівасць яднае беларускія першадрукі з заходнееўрапейскай кніжнай традыцыяй. Зрэшты, і стылістыка гравюр Скарыны мае, відавочна, заходняе паходжанне.


ИСХОДЪ  А

Почінаютьсѧ вторыи книги Моисеѡвы, ѧкоже ѡт Евреи Гелесмотъ. По греческии Ексодос. По латине Ексит[у]съ. А по рускии Исходъ. А имают всобе главъ м.

Глава а.

Имена сынов Израилевыхъ вшедшихъ до Египта почитает. О размножении и о роботе юже фараонъ на нихъ возложил и велелъ губити младенце.

Сие суть имена сынов Израилевыхъ вшедшихъ до Египта со Иаковом отцемъ своимъ, вси и с челядми своими внидоша. Рубим, Симионъ, Левгии, Юда, Изахаръ, Зевулонъ, и Вениаминъ, Данъ

*Застаўка перад пачаткам біблейскага тэксту ў Кнізе Выхад*

Тую ж ролю, што і застаўкі, іграюць адносна невялікія віньеткі. У пражскіх выданнях можна налічыць 20 віньетак пяці розных малюнкаў. Усе яны таксама выкананы ў тэхніцы ксілаграфіі, але ў адваротнай манеры — белым штрыхом па чорным фоне.

Часам на адным аркушы можна сустрэць адразу некалькі розных мастацкіх элементаў. Напрыклад, на першай тытульнай старонцы Кнігі Прытчаў Саламона змешчана вялікая тэматычная гравюра, а на адвароце — вертыкальная і гарызантальная віньеткі, а таксама гравіраваны ініцыял.

У якасці канцовак нярэдка выкарыстоўваліся фігурныя застаўкі, якія ўжываліся і паводле свайго непасрэднага прызначэння. Многія канцавыя палосы пражскіх выданняў Скарына завяршаў фігурным наборам сімвалаў або знакамі прыпынку (сцішыцай).

Застаўкі, віньеткі і канцоўкі не толькі дапаўняюць тэкст кнігі, але і ствараюць яркае эмацыянальнае і ўзнёслае пачуццё пры знаёмстве з ёю. Тым самым чытач нібы папярэджаны, што трымае ў руках не проста выданне ці рукапіс, а Святое Пісанне — самую каштоўную кнігу еўрапейскай цывілізацыі.

Разам з тэкстам буйныя гравюры, застаўкі і канцоўкі выступаюць у гарманічным адзінстве, дапаўняюць адно аднаго і фарміруюць цэласны твор мастацтва пад назвай кніга.





# ІНІЦЫЯЛЫ

Яркай асаблівасцю ўсіх выданняў Францыска Скарыны з'яўляюцца прыгожыя літары-ініцыялы, з якіх пачынаюцца тэксты раздзелаў. Ініцыялы, або буквіцы, найчасцей маюць выгляд вялікай літары, узятай у рамку і аздобленай разнастайнымі вывамі — кветак, лісця, садавіны, ягад, рыб, птушак, звяроў і людзей.

Ініцыялы нашы продкі змяшчалі ўжо ў самых старажытных рукапісных кнігах, якія паходзяць з беларускіх



*Ініцыял у венецыянскім выданні 1499 года*



*Расфарбаваны і ілюмінаваны ініцыял у венецыянскім выданні канца 15 стагоддзя*

зямель. Іх можна знайсці і ў Тураўскім Евангеллі 11 стагоддзя, і ў Полацкім Евангеллі канца 12 — пачатку 13 стагоддзя, і ў многіх пазнейшых рукапісах. На першым часе пасля ўзнікнення кнігадрукавання еўрапейскія друкары не выкарыстоўвалі ініцыялы, а толькі пакідалі для іх месца, каб мастак-ілюмінатар пасля мог ад рукі намаляваць і расфарбаваць патрэбны ініцыял.

*Ініцыялы пражскіх выданняў Францыска Скарыны*



Але неўзабаве яны пачалі выкарыстоўвацца і ў друкаванай кнізе. Першыя славянскія выданні Швайпольта Фіёля і манаха Макарыя таксама іх змяшчаюць.

Францыск Скарына выкарыстоўваў ініцыялы сістэматычна і ў пражскі, і ў віленскі перыяды сваёй дзейнасці, што падкрэслівала пераемнасць гэтых двух перыядаў.

У пражскіх выданнях ініцыялы ўжываюцца 766 разоў. Для іх друку было выраблена 109 арыгінальных дошак. Памеры большасці з іх — 28 × 20 мм, хаця сустракаюцца і іншыя памеры: 22 × 20 мм, 35 × 24 мм. Паводле вышыні яны маглі займаць ад трох да пяці радкоў тэксту, які акружаў іх па перыметры.

Усе ініцыялы ўяўляюць сабой дрэварыты, але выкананы яны ў розных тэхніках і адрозніваюцца стылістычна. Большасць адбіткаў зроблена ў адваротнай манеры — белым штрыхом па







***Ініцыялы пражскіх (зверху) і віленскіх (знізу) выданняў Францыска Скарыны***

чорным фоне. Для вырабу адпаведных дошак абразаўся не фон вакол штрыха, а выразаўся сам штрых. Толькі 9 ініцыялаў выкананы ў той жа тэхніцы, што і вялікія тэматычныя гравюры — чорным штрыхом па белым фоне. Прычым іх Скарына звычайна размяшчаў на першых старонках кнігі, дзе таксама стаялі вялікія гравюры або фігурныя застаўкі, тэхніка гравіравання якіх аналагічная. У выніку яны гарманічна дапаўнялі вялікія гравюры і не перацягвалі на сябе ўвагу. У той жа час чорныя (з белым штрыхом) ініцыялы звычайна размяшчаліся на старонках, запоўненых тэкстам, дзе яны станавіліся важнейшымі элементамі дэкору. Такім чынам, размяшчэнне ініцыялаў на палосах набору мела добра прадуманы і спланаваны характар, друкары арыентаваліся на дасягненне гармоніі ў сваім выданні.

Фонавыя малюнкі ў ініцыялах, запоўненыя выявамі раслін, прадметаў, рыб, птушак, паўзуноў, жывёл і людзей, выкананы з добрым густам і фантазіяй. Майстэрства гравёра (ці, хутчэй, гравёраў), які выконваў дошкі для ініцыялаў, здзіўляе высокім прафесіяналізмам і майстэрствам. На невялікай выяве памерам каля 5—6 квадратных сантыметраў ён змясціў прыгожыя малюнкі, а часам і цэлыя сцэнкі.

У адных ініцыялах чытач можа ўбачыць і галінкі з дубовымі лістамі, і вінаградную лазу, і канюшыну, і васількі, і кляновае лісце, і кусцікі ягад. У другіх — ваенны барабан з палачкамі ці ствол гарматы. У трэціх — аленя з галінастымі рагамі і льва. У чацвёртых — немаўлят у самых розных позах, аголеных людзей, чалавечы чэрап. Часам у выявах ініцыялаў можна знайсці сігнет (выдавецкую марку) Скарыны — сумешчаныя сонца і паўмесяц. Відавочна, што гравюры для друку гэтых ініцыялаў былі выраблены спецыяльна для выданняў беларускага першадрукара. Тым больш што ініцыялы літар кірылічнага алфавіта ў Празе для іншых выданняў проста не маглі быць выкарыстаны.

У Вільню з Прагі Францыск Скарына перавёз значную частку сваіх

друкарскіх матэрыялаў, у тым ліку дошкі для друку ініцыялаў. Таму ў канонах "Малой падарожнай кніжкі" мы сустракаем ужо знаёмыя пражскія ініцыялы. І ўсё ж пераважная большасць ініцыялаў для віленскіх выданняў была зроблена ў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. Яны (як і самі выданні) мелі меншыя памеры: 15 × 10 мм, 20 ×14 мм, 20 × 12 мм, 9 × 6 мм, 9 × 7 мм. Гэтыя ініцыялы, як і пражскія, маюць прамавугольную форму, выкананы светлым штрыхом па чорным фоне. Адметнай асаблівасцю ініцыялаў віленскіх выданняў з'яўляецца адсутнасць у іх фігурных выяў, якія саступілі месца раслінnаму арнаменту ў рэнесансавым стылі.

Сярод іншых вельмі вылучаецца вялікі ініцыял "С" з "Акафіста Труне Гасподняй". Ён мае вялікія памеры — 50 x 50 мм — і займае амаль паўстаронкі. Да таго ж ён не заключаны ў прамавугольную рамку, а выразаны па форме літары. Уся ўнутраная прастора ініцыяла запоўнена багатым раслінным арнаментам. Асаблівую ўрачыстасць яму надае тое, што ён надрукаваны чырвонай фарбай. У той жа час гэты ініцыял не з'яўляецца арыгінальным. Верагодна, яго дошка была прывезена Скарынам з Еўропы і першапачаткова выкарыстоўвалася ў "Вялікім прапісным алфавіце" нямецка-нідэрландскага гравёра Ізраэля ван Мекенэма як ініцыял лацінскага "U". У віленскім выданні ініцыял быў павернуты ўправа на 90° — і атрымалася кірылічная літара "С".

Гэты ініцыял, як лічыцца, паўплываў на фарміраванне так званага стардрукарскага стылю, які ў другой палавіне 16 стагоддзя атрымаў пашырэнне ва ўсходнеславянскай кніжнасці. Дакладна можна сказаць, што ініцыялы выданняў Скарыны аказалі выключна вялікі ўплыў на фарміраванне кніжнай культуры Вялікага Княства Літоўскага, Маскоўскага Царства, Валахіі і іншых краін. Асобныя з яго ініцыялаў нават выкарыстоўваліся ў выданнях Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Стафана Зізанія. Іх ужывалі ў выданнях друкарняў Нясвіжа, Вільні, Астрога (у тым ліку ў знакамітай Астрожскай Біблії), Еўя.


ПОХВАЛА
Стихъ первыи
О высоты нязе
млю бля
гоизво
ли снии
ти сын
и слово
божие,
и сочело
веки поживе, волею распятие, и смерть
на кресте прият, и во гробе яко мертв по
ложися безсмертный, и тридневно яко
бог воскресе. темже вси верни яко бля
дыще и богу поем аллилуия
Стихъ вторый
Воскресение твое Христе славим, и жнео

*Унікальны ініцыял "С" з "Малой падарожнай кніжкі"*

# ПЕРАПЛЁТ

Сёння нам прывычна бачыць кнігі Францыска Скарыны ў старажытных, пераважна скураных пераплётах. Але стварэнне пераплёту ў тыя далёкія часы было справай, якая мела дачыненне найперш не да выдаўца, а да новага ўладальніка выдання. Кніга прадавалася звычайна без пераплёту — простым кніжным блокам. А ўжо ўладальнік мог пераплесці яе так, каб яна лепш падыходзіла сваім знешнім выглядам да іншых кніг у яго бібліятэцы і не парушала гармонію кнігазбору. Бясспрэчна, фінансавыя магчымасці ўладальніка таксама вызначалі выгляд і якасць пераплёту.

У часы Францыска Скарыны майстэрства вырабу пераплётаў дасягнула высокага ўзроўню. Але перад тым як пераплесці кнігу, яе трэба было сабраць з асобных аркушаў і сшыць у адзін кніжны блок. Гэта работа выконвалася ў друкарні.

Уся брашуровачна-пераплётная праца пачыналася з фальцоўкі аркушаў. Друкарскі аркуш звычайна быў некалькі большым, чым фармат кнігі. Напрыклад, пражскія выданні Скарыны былі надрукаваны фарматам у чацвёртую долю аркуша. Гэта значыць, што на адным друкарскім аркушы размяшчалася па чатыры старонкі з кожнага боку. Таму каб атрымаць патрэбны памер, аркуш трэба было скласці папалам двойчы. Віленскія выданні мелі фармат удвая меншы — у восьмую долю аркуша. Таму друкарскі аркуш згінаўся ў іх тройчы і на ім змяшчалася па восем старонак тэксту



*У пераплётнай майстэрні*

з кожнага боку. Лінія перагібу прасавалася спецыяльнай костачкай.

Найчасцей друкаваліся адразу некалькі аркушаў, якія разам складваліся (фальцаваліся) і з якіх атрымліваўся адзін сшытак. Ад друкароў патрабавалася вялікая ўважлівасць і дакладнасць, каб правільна размясціць старонкі на друкарскім аркушы, якія пры складванні павінны былі стаць у правільным парадку. Такая ж уважлівасць патрабавалася і ад фальцоўшчыкаў, якія павінны былі складваць аркушы ў правільным кірунку і парадку. Трэба адзначыць, што ў выданнях Скарыны часам можна бачыць выпадкі, калі з-за недакладнага складвання аркушаў парушаўся парадак старонак у кнізе.

Наступная аперацыя называецца падборкай. Яна прадугледжвала складванне асобных сшыткаў у кніжны блок. Пры гэтым кіраваліся сігнатурай — пазначэннем нумароў сшыткаў. У выданнях Скарыны друкаванай сігнатуры нідзе няма. Але ў некаторых асобніках захаваліся рукапісныя сігнатуры. Іх наносілі на тыя ўчасткі аркуша, якія пасля павінны былі абразацца.

Чарговым этапам стварэння кнігі было сшыванне сабранага кніжнага блока ніткамі. Сшыткі сшываліся паміж сабою і мацаваліся да так званых бінтоў (вяровак), якія заставаліся бачнымі на карэньчыку кнігі. Затым гатовы кніжны блок зацiскалі ў вялікія ціскі і рабілі абрэз — раўнамерна абразалі краі няроўных аркушаў з трох бакоў.



*Пераплётны станок*

Уласна выраб пераплёту прадугледжваў укладанне сшытага і абрэзанага кніжнага блока паміж дзвюма дошкамі (пераплётнымі вечкамі), якія абцягваліся скурай, пергаментам або тканінай. Для вырабу пераплётаў выкарыстоўвалі цялячую, авечую і радзей свіную, конскую або казіную скуру. Нярэдкімі былі выпадкі выкарыстання шчыльных аркушаў пергаменту са старых рукапісаў і выданняў для вырабу новых пераплётаў. Кніжны блок мацаваўся да вечкаў пры дапамозе форзацаў — трывалых і шчыльных аркушаў паперы.

Вельмі часта для ўпрыгажэння скураных пераплётаў на іх рабілася арнаментальнае сляпое (гэта значыць без нанясення фарбы) цісненне. Для гэтай мэты выкарыстоўвалі медныя плоскія і ролікавыя штампы. Часта можна сустрэць і пераплёты з залатым ці сярэбраным цісненнем.





На вечкі пераплётаў нярэдка мацаваліся металічныя жукавіны (на іх кніга ляжала), нарожнікі (на куточках пераплёту), дэкаратыўныя элементы. Яны выконвалі не толькі эстэтычную функцыю, але і ахоўвалі пераплёт ад пашкоджанняў. Вялікую ролю ігралі таксама зашчапкі для трывалага мацавання кнігі ў закрытым стане. Яны таксама выратоўвалі яе ад лішняй дэфармацыі, пранікнення ў яе вільгаці, аказвалі супраціўленне агню падчас пажараў.

Арыгінальным варыянтам пераплёту невялікіх кніг для зручнага нашэння іх з сабою з'яўляюцца так званыя паясныя кнігі. У верхняй іх частцы скура не абразалася, а пакідалася, каб за яе можна было браць рукою ці прывязваць да пояса.

Часам пры пераплёце ў адзін том збіралася адразу некалькі кніг, блізкіх паводле зместу, аўтарства ці іншых прычын. Такія зборнікі некалькіх розных выданняў у адным пераплёце называюцца канвалютамі. Некаторыя заможныя ўладальнікі кніг залацілі іх абрэзы або замаўлялі прыгожую расфарбоўку на абрэзах выданняў.

На вялікі жаль, большасць выданняў Скарыны захавалася ў пазнейшых пераплётах 18—19 стагоддзяў. Найстарэйшы з вядомых нам пераплётаў захаваўся на канвалюце з 11 пражскіх выданняў беларускага першадрукара, які захоўваецца сёння ў нямецкім горадзе Гёрліцы. Гэты пераплёт зроблены ў 16 стагоддзі і, магчыма, яшчэ ў часы працы Францыска Скарыны. Яго драўляныя дошкі абцягнуты скурай і аркушам пергаменту са старога лацінскага рукапісу, што надае кнізе дадатковую ўрачыстасць.

Яшчэ адзін старажытны пераплёт, выраблены ў 1545 годзе, на жаль, не захаваўся. Ён належаў Пскоўскаму гісторыка-археалагічнаму музею і знік у гады Другой сусветнай вайны. Пераплёт быў выкананы заходнееўрапейскім майстрам з дошак, апраўленых у скуру з цісненнем. На ім былі адціснуты біблейскія сцэны і персанажы ў суправаджэнні тэкставых подпісаў.




***Еўрапейскі металічны пераплёт Сьёнскага Евангелля, выкананы ў 1180—1200 гадах***

*Скураны пераплёт 16 стагоддзя, знойдзены пры раскопках у Вільні*





*Жукавіны на заднім вечку выдання*



*Скураны пераплёт выдання Скарыны з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*



*Чырвоны скураны пераплёт выдання Скарыны са срэбным цісненнем*







*Пераплёт паяснай кнігі*




*Пераплёт з залатым дэкаратыўным і шрыфтавым цісненнем*

Найбольш старажытны беларускі пераплёт на выданнях Францыска Скарыны датуецца 16—17 стагоддзямі і сёння захоўваецца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы. Аднак з-за актыўнага выкарыстання старыя пераплёты часта замяняліся на больш новыя. Таму большасць вядомых сёння пераплётаў зроблены для выданняў Скарыны ў 19 стагоддзі па замове Пецярбургскай публічнай бібліятэкі, Маскоўскага публічнага і Румянцаўскага музеяў і такіх збіральнікаў, як Фёдар Талстой, Іван Царскі, Аляксей Касцерын, Міхаіл Пагодзін. Некаторыя з іх імітуюць старыя пераплёты, але найчасцей выраблены з кардону, абцягнутага скурай з залатым цісненнем. Часам кардон абклейваўся тканінай або форзацнай "турэцкай" паперай з мармуровым узорам. Але некаторыя з пераплётаў аздоблены вельмі раскошна.



Нягледзячы на тое, што менавіта беларуская зямля нарадзіла першага ўсходнеславянскага друкара і выдаўца, на яго радзіме амаль не засталося выдадзеных ім кніг — спадчыны асветніка. Прычын для гэтага было больш чым дастаткова: шматлікія войны, паўстанні, пажары прывялі да страты вялікай часткі нацыянальнай кніжнай спадчыны альбо яе вывазу за межы краіны. Урэшце актыўнае выкарыстанне кніг першадрукара ў Беларусі на працягу некалькіх стагоддзяў прывяло да таго, што многія з іх знасіліся, спарахнелі і былі заменены навейшымі біблейскімі і царкоўнымі выданнямі.

У той жа час мы добра ведаем, што ў Беларусі выданні Францыска Скарыны зберагаліся і выкарыстоўваліся ад часу іх апублікавання. Паводле меркавання даследчыкаў, кнігі Скарыны былі ў распараджэнні многіх членаў віленскага магістрата і заможных жыхароў Вільні (у прыватнасці Багдана Онкава, Якуба Бабіча, Юрыя Адверніка), якія падтрымлівалі яго пачын. У той жа час пражскія і віленскія выданні Францыска Скарыны пачалі выкарыстоўвацца ў многіх беларускіх храмах і манастырах (напрыклад, у Супраслі, Жыровічах і інш.), а таксама з'явіліся ў асабістых кнігазборах праваслаўных і ўніяцкіх святароў і іерэяў. Яны былі таксама добра вядомыя многім пазнейшым друкарам і выдаўцам, якія запазычвалі некаторыя формы кніжнага афармлення, прадаўжалі мастацкія і асветніцкія традыцыі славутага палачаніна.

Выданні беларускага першадрукара не толькі захоўваліся ў айчынных кнігазборах, але і распаўсюджваліся ў выглядзе рукапісных копій. Так, у 1543 годзе па распараджэнні пінскага і кобрынскага старосты Івана Міхайловіча пісцом Парфёнам быў перапісаны пражскі Псалтыр.

Аднак у канцы 18 — 19 стагоддзі з Беларусі былі вывезены апошнія экзэмпляры выданняў Францыска Скарыны. Часцей за ўсё яны траплялі ў дзяржаўныя зборы ў Вільні, Пецярбургу, Маскве або ў шматлікія прыватныя калекцыі. У выніку ў пачатку 20 стагоддзя ў Беларусі не засталося ніводнай кнігі нашага слыннага земляка.

У 20 стагоддзі пачалася праца па вяртанні гэтай спадчыны на радзіму. У самым пачатку 1920-х гадоў у Мінску была створана Дзяржаўная і ўніверсітэцкая бібліятэка Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (сёння — Нацыянальная бібліятэка Беларусі). Тады ж айчыннымі вучонымі і супрацоўнікамі бібліятэкі распачаліся пошукі выданняў асветніка.



***Помнік Францыску Скарыну перад будынкам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі***

Вялікім штуршком у гэтым кірунку стала святкаванне ў 1925 годзе 400-годдзя беларускага кнігадрукавання. Менавіта тады бібліятэка набыла калекцыю з 10 кніг Францыска Скарыны, якія раней належалі ленінградскаму бібліяфілу В. Камарніцкаму. Сярод іх Кніга Іова, Кніга Ісуса Сірахава, Кніга Эклезіяста, Кніга Прамудрасці Божай, чатыры Кнігі Царстваў, Кніга Песня песняў. У той жа час, верагодна, былі набыты рукапісная копія Кнігі прарока Данііла і два рукапісныя спісы Кнігі Іова, створаныя ў 19 стагоддзі.

Для гэтых выданняў былі створаны спецыяльныя ўмовы захоўвання. Але падчас Другой сусветнай вайны кнігі былі вывезены з Беларусі ў Германію і маглі ўжо ніколі не вярнуцца назад, як і многія іншыя назаўсёды страчаныя кніжныя помнікі. Аднак тут беларусам пашанцавала і здавалася б назаўсёды страчаныя выданні Францыска Скарыны былі здабыты зноў. Па ўспамінах супрацоўнікаў бібліятэкі, якія займаліся разборам эшалона з кнігамі, вернутымі на Радзіму, іх знаходка была сапраўдным шчасцем.

Пасля завяршэння вайны ў бібліятэцы была зроблена спроба рэстаўрацыі двух выданняў Скарыны — Кнігі Эклезіяста і Кнігі Прамудрасці Божай, але не хапіла неабходнага вопыту і матэрыяльных сродкаў. У выніку выданням магла быць нанесена большая шкода, чым карысць. У гэтай сувязі ў 1990 годзе была праведзена новая рэстаўрацыя, якая мела на мэце прадухіліць наступствы працы папярэднікаў. У той жа час сучасныя тэхналогіі прадугледжваюць мінімальны ўплыў на арыгінал і замену рэстаўрацыі навуковай кансервацыяй.

Сёння выданні беларускага першадрукара як найвялікшая каштоўнасць захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Яны ўнесены ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь і ахоўваюцца на дзяржаўным узроўні. Для таго каб павялічыць шансы шырокай публікі пазнаёміцца з кніжнай спадчынай, у новым будынку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адчыніўся сучасны Музей кнігі. Тут створаны найлепшыя ўмовы захоўвання і экспанавання, і кожны наведвальнік мае магчымасць на ўласныя вочы пабачыць першыя беларускія кнігі.

І ўсё ж у Беларусі зберагаецца толькі невялікая частка захаваных выданняў Францыска Скарыны (а іх у свеце налічваецца больш за 500). У гэтым кантэксце вялікае значэнне мае справа пошуку і вяртання кніжнай спадчыны беларускага першадрукара ў дзяржаўныя бібліятэчныя зборы нашай краіны. Праца ў гэтым напрамку вядзецца ўжо даволі даўно. Нягледзячы на ўнікальнасць гэтых выданняў і выключную рэдкасць з'яўлення іх у продажы, можна набываць іх у прыватных уладальнікаў. За апошнія пятнаццаць гадоў такая магчымасць узнікала некалькі разоў. Аднак недастатковае фінансаванне (бібліятэка з'яўляецца дзяржаўнай некамерцыйнай арганізацыяй) не дазволіла рэалізаваць гэта імкненне. З іншага боку, пазітыўнай тэндэнцыяй апошняга часу стала ўмацаванне беларускага прыватнага сектара, які зацікавіўся нацыянальнымі каштоўнасцямі. У выніку сёння Скарынавы кнігі маюцца і ў прыватных уладальнікаў нашай краіны.

У любым выпадку трэба разумець, што рэальнае вяртанне першадрукаў Скарыны магчыма ў вельмі абмежаваным маштабе. У гэтай сітуацыі неабходна шукаць іншыя захады па вяртанні спадчыны знакамітага палачаніна ў навуковы і грамадскі ўжытак беларусаў і іх еўрапейскіх суседзяў. Адным з такіх шляхоў уяўляецца часовае вяртанне арыгінальных выданняў Скарыны ў Беларусь падчас кніжных выставак і іншых мерапрыемстваў. Такую практыку ўпершыню распачала Нацыянальная бібліятэка Беларусі ў 2012 годзе выстаўкай адзінаццаці пражскіх выданняў Бібліі Францыска Скарыны са збораў бібліятэкі Верхнялужыцкага навуковага таварыства (горад Гёрліц, Германія). Падобныя





алан̃ъ сынъ Яховоронь · Семуже умершу Царъ
ствовалъ понемъ Ададъ имяже граду его Ефон
ипрозывали жену его Мезавель дщера Матредова,
дщеры Мисадовы · Сим суть имена Царей
исавовыхъ поплеменехъ ипородехъ ипоместехъ своих
лѕ якописшеть отомъ Моисей пророкъ божий изако
нодавець, впервыхъ книгахъ своихъ · Ито есть
родъ с҃тго Иова, иегда ему было летъ сто ио
смъ перепустилъ есть нанего г҃дь богъ раны великые
Хотечи намъ дати науку терпения вовсихъ проти
вныхъ речахъ иволестехъ иранахъ нашихъ · Ипотом
видячи смирение и терпение его помиловалъ и ·
жилже Иовъ поранахъ техъ летъ сто и м҃ иумре ∻



Всей Книзе с҃тго Иова суть главъ четыр
десять идве · Пишетьже вних оего
терпении иоего совершении, иако жена и
скушала его · Огаданий тежеего сотрема другы они
же были пришли посетити его · иясно имъ пове
делъ оизмертвыхъ встании · Потом Елиудъ сним
говорилъ · Апотомъ сам г҃дь избури облачное ему
чудеса своя поведалъ есть ∻

*Разварот Кнігі Іова*



Поведаетъ яко богатъ былъ светыи Иовъ. И о чадехъ его и о пированіи ихъ и како діяволъ з допущенія божія погубилъ все имение его. И чада его ⁘

глава а ⁘



Человекъ некыи беше въ стране Усевитидстеи именемъ Иовъ. И беше человекъ тои непороченъ и праведенъ, благочестивъ, и истиненъ. Боися бога и удаляяся отвсякого зла дела. Бы



***Выданні Францыска Скарыны ў Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі***

экспазіцыі замежных збораў запланаваны на бліжэйшыя гады.

Яшчэ адным альтэрнатыўным кірункам з'яўляецца віртуальная рэканструкцыя спадчыны Скарыны і прадастаўленне шырокай аўдыторыі доступу да яе праз выкарыстанне сучасных інфармацыйных тэхналогій. Работа ў гэтым напрамку была распачата ўжо даволі даўно, але паўнацэннае афармленне яна атрымала ў другім дзесяцігоддзі 21 стагоддзя. Сёння сістэматычна праводзяцца работы па выяўленні, вывучэнні, правядзенні экспертызы і стварэнні навуковага апісання выданняў з замежных збораў,

іх алічбоўка, распрацоўваецца праграмнае забеспячэнне электроннай бібліятэкі і ствараецца матэрыяльна-тэхнічная база. Дзякуючы ўзаемадзеянню Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі са сваімі замежнымі партнёрамі ўжо атрыманы лічбавыя копіі каля 200 кніг першадрукара.

У якасці альтэрнатыўнага шляху вяртання спадчыны Францыска Скарыны можа быць разгледжана факсімільнае ўзнаўленне яго выданняў, якое на самым высокім навуковым і паліграфічным узроўні сёння ажыццяўляецца Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі сумесна з банкам БелВЭБ. Гэты праект, разлічаны на пяць гадоў (2013—2017), завершыцца першым поўным узнаўленнем усіх выданняў беларускага першадрукара. Асновай гэтай справы сталі электронныя копіі кніг Францыска Скарыны, што захоўваюцца ў бібліятэках і музеях Беларусі, Германіі, Расіі, Украіны і іншых краін. Факсімільныя выданні з максімальнай паўнатой узнаўляюць усе асаблівасці арыгіналаў. Для лепшага разумення сутнасці і значэння спадчыны беларускага першадрукара кожная з яго кніг выходзіць у суправаджэнні навуковых каментарыяў, а таксама з перакладамі яго прадмоў і пасляслоўяў на беларускую, рускую і англійскую мовы.

Гэтыя і многія іншыя мерапрыемствы, якія праводзяцца ў Беларусі, скіраваны на захаванне і папулярызацыю спадчыны нашага асветніка і першадрукара. Дзякуючы іх рэалізацыі мяркуецца падрыхтаваць глебу для святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання.

У Маскоўскую дзяржаву выданні Францыска Скарыны трапілі яшчэ пры жыцці асветніка. Існуе меркаванне, што ён сам наведваў Маскву з мэтай арганізацыі продажу ўласных выданняў. У Расію Скарынавы кнігі траплялі разам з купцамі, падарожнікамі, дыпламатамі. Многія кнігі былі вывезены на Усход у якасці ваеннай здабычы падчас шматлікіх войнаў і сутычак, якія нярэдка адбываліся ў 16—18 стагоддзях паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай (гэта пацвярджаюць уладальніцкія запісы на саміх кнігах).

Гэтыя кнігі ў Расіі былі вядомымі, чыталіся і распаўсюджваліся. Напрыклад, ужо ў пачатку 1520-х гадоў Максім Грэк быў знаёмы са Скарынавым выданнем Першай Кнігі Царстваў (1518) і цытаваў яго ў “Сказанні аб Галіяшы”. У сярэдзіне 16 стагоддзя выданні Скарыны меліся ў прыватнай бібліятэцы расійскага купца і прамыслоўца Анікея Строганава (пражскія выданні, “Малая падарожная кніжка”, “Апостал”), а з 1570-х гадоў — у кнігазборы яго нашчадкаў — Сямёна, Максіма і Мікіты Строганавых. Расійскае праваслаўнае духавенства мала карысталася Скарынавымі выданнямі. Яго насцярожвалі месца выдання (каталіцка-пратэстанцкая Прага), дэмакратызм выказаны ў прадмовах, незвычайнае афармленне з мноствам гравюр і партрэтам





выдаўца, урэшце мова выданняў. І ўсё ж беларускія першадрукі траплялі ў расійскія царкоўныя і манастырскія кнігазборы.

У 18 стагоддзі кола чытачоў і ўладальнікаў выданняў Скарыны ў Расійскай імперыі значна вырасла. Напрыканцы 18 стагоддзя ў Расійскай імперыі пачалося навуковае вывучэнне кнігавыдавецкай дзейнасці беларускага асветніка і яго спадчыны.

Такім чынам, амаль адразу пасля выхаду ў свет кнігі беларускага першадрукара трапілі ў Маскоўскую дзяржаву і знайшлі сваіх удзячных чытачоў, збіральнікаў і даследчыкаў. У сувязі з гэтым менавіта ў Расіі сёння захоўваецца пераважная большасць выданняў Францыска Скарыны. Прычым гаворка ідзе не пра адзінкавыя асобнікі і нават не пра дзясяткі выданняў, а пра сотні кніг беларускага першадрукара. Прычым вядомыя яны не толькі ў сталічных Маскве і Санкт-Пецярбургу, але і ў Казані, Саратаве, Цюмені. Вялікія калекцыі выданняў Скарыны можна знайсці не толькі ў найбуйнейшых бібліятэках Расіі, але і ў музеях ды архівах.

Найбольшай калекцыяй валодае галоўная бібліятэка краіны — Расійская дзяржаўная бібліятэка. Бібліятэка валодае самым вялікім у свеце зборам выданняў беларускага першадрукара, які фарміраваўся на працягу ўсёй гісторыі існавання гэтай установы. Іх колькасць сёння дасягае 106 экзэмпляраў, у тым ліку 93 пражскія выданні і 13 віленскіх.

Першыя выданні Скарыны здолеў займець яшчэ граф Мікалай Румянцаў. Як дзяржаўны канцлер і міністр замежных спраў Расійскай імперыі ён меў вялікія магчымасці для задавальнення свайго імкнення збіраць старажытнасці. Атрымаўшы ад імператрыцы Кацярыны II значныя зямельныя ўладанні ў Беларусі, ён пабудаваў сваю рэзідэнцыю-палац ў Гомелі. Граф стварыў вакол сябе гурток збіральнікаў старажытнасцей і сабраў выключна каштоўную калекцыю рукапісных і друкаваных кніг, да якіх меў асаблівую сімпатыю. Вялікая частка кніжных помнікаў была



***Пераплёт выданняў Францыска Скарыны з фондаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі***

*Інтэр'ер Расійскай нацыянальнай бібліятэкі*

адшукана для яго калекцыі менавіта на беларускіх землях. Верагодна, гэта тычылася і шматлікіх сабраных ім выданняў беларускага першадрукара.

У далейшым бібліятэка Румянцаўскага музея працягвала папаўняць свае зборы шляхам куплі выданняў і атрымання іх у падарунак. Так, у якасці дублета з Імператарскай публічнай бібліятэкі ў 1874 годзе яна атрымала канвалют з пяці кніг Майсеевых — Пяцікніжжа, выдадзенае Скарынам у 1519 годзе. У 1870 годзе музей набыў збор старадрукаваных кніг І.Я. Лукашэвіча, куды ўваходзілі пражскія выданні Скарыны.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі многія кнігі паступалі ў бібліятэку ў выніку іх канфіскацыі ў прыватных асоб і царкоўных устаноў. У 1917 годзе бібліятэка набыла Кнігу Прытчаў Саламона са збору М.М. Бірукова. У 1919 годзе яна атрымала нацыяналізаваныя дзяржавай выданні са збору букініста-антыквара П.П. Шыбанава, у 1920-я гады — кнігі з Маскоўскай







***Аўтар гэтага выдання ў цэнтральным холе Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі***

духоўнай акадэміі. У 1932 годзе ў Расійскую дзяржаўную бібліятэку былі перададзены два канвалюты з навуковай бібліятэкі Саратаўскага ўніверсітэта. У выніку сёння ў гэтай маскоўскай бібліятэцы сабрана самая вялікая калекцыя выданняў беларускага першадрукара.

Другім па значнасці маскоўскім зборам выданняў Скарыны з'яўляецца калекцыя Дзяржаўнага гістарычнага музея Расійскай Федэрацыі. Тут сярод іншага захоўваецца адзін з двух вядомых экзэмпляраў першай друкаванай беларускай кнігі — Псалтыра 1517 года.

У музеі захоўваецца багаты фонд выданняў Францыска Скарыны, які фарміраваўся паступова пачынаючы з першых гадоў дзейнасці гэтай установы. У 1883 годзе разам з кнігазборам старшыні Маскоўскага таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх Аляксандра Чарткова ў музей паступіў дастаткова поўны экзэмпляр “Малой падарожнай кніжкі”. У 1888 годзе сюды ж перададзена бібліятэка маскоўскага калекцыянера Паўла Шчапава. Яна ўключала 2 канвалюты пражскіх выданняў Скарыны і віленскі “Апостал”.

Шмат паступленняў у фонды музея адбылося пасля рэвалюцый 1917

года, калі многія прыватныя, царкоўныя і манастырскія кнігазборы былі нацыяналізаваны і перададзены ў дзяржаўныя ўстановы. Так, у 1917 годзе аддзел рукапісаў музея папоўніўся 5 канвалютамі, у якіх пераплецены 18 пражскіх выданняў Францыска Скарыны, якія раней належалі маскоўскаму купцу-стараверу Івану Царскаму. Пасля смерці ўладальніка ў 1853 годзе яго калекцыю набыў граф Аляксей Увараў. Пасля рэвалюцыі бібліятэка Уваравых перададзена Гістарычнаму музею.

Тады ж, у 1917 годзе, з бібліятэкі купца-старавера Аляксея Хлудава ў зборы Дзяржаўнага гістарычнага музея былі перададзены некалькі вельмі каштоўных выданняў Францыска Скарыны — канвалют пражскага Пяцікніжжа, віленскі "Апостал" і, што важна, самае першае беларускае выданне — Псалтыр 1517 года. Гэту кнігу ўпершыню выявіў Аляксей Віктараў, які пасля знаёмства з ёю ў 1867 годзе апублікаваў сваю працу "Цудоўнае адкрыццё ў старажытнарускім кніжным свеце". Аляксей Хлудаў перадаў свой кнігазбор Мікольскаму адзінаверскаму манастыру ў Маскве, адкуль ён у 1917 годзе перайшоў у музей.

Сёння ў Дзяржаўным гістарычным музеі захоўваецца 86 выданняў Францыска Скарыны (трэці па колькасці экзэмпляраў кнігазбор у свеце), у тым ліку 38 пражскіх і 48 віленскіх.

Акрамя бібліятэк і музеяў выданні Францыска Скарыны захоўвае Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў —



*Дзяржаўны гістарычны музей*





галоўны гістарычны архіў краіны. У фондах архіва захоўваецца Метрыка Вялікага Княства Літоўскага, шматлікія важнейшыя крыніцы па гісторыі Беларусі, а таксама рукапісныя і друкаваныя кнігі.

У зборы архіва трапіла калекцыя гісторыка Герарда Фрыдрыха Мілера, які кіраваў Маскоўскім архівам Міністэрства замежных спраў. У гэтай калекцыі захоўваліся два тамы Скарынавай Бібліі. Першы быў набыты ў Пецярбургу і ўключаў пераплеценыя разам кнігі Пяцікніжжа Майсеева. Другі быў куплены ў Маскве і змяшчаў чатыры Кнігі Царстваў, Кнігу Юдзіф, Кнігу Эсфіры, Кнігу Руфі, Кнігу Іова і Кнігу прарока Даніїла. Апрача таго, у сховішчах Расійскага дзяржаўнага архіва старажытных актаў зберагаюцца віленскія Псалтыр і Часасловец з “Малой падарожнай кніжкі” і “Апостал”, а таксама другі экзэмпляр Кніг Царстваў, які раней належаў бібліятэцы Маскоўскага друкарскага двара.

Велізарнымі зборамі беларускіх старадрукаваных выданняў валодаюць таксама бібліятэкі Санкт-Пецярбурга — колішняй сталіцы Расійскай імперыі. Яшчэ за царскім часам сюды звозіліся найбольш значныя культурныя каштоўнасці.

Найбольшая з іх — Бібліятэка Расійскай акадэміі навук. Пачынаючы з 18 стагоддзя ў фонды бібліятэкі паступалі калекцыі вядомых прыватных асоб і многіх вучоных. Аднак найбуйнейшым паступленнем за ўсё 18 стагоддзе стаў кнігазбор князёў Радзівілаў, вывезены з Нясвіжа ў 1772 годзе. З 1901 года бібліятэка праводзіла археаграфічныя экспедыцыі па Расійскай імперыі з мэтай адшукання рукапісаў і старадрукаваных кніг для ўзбагачэння сваіх фондаў.

Яшчэ ў 18 стагоддзі бібліятэка мела канвалют з пяці першых кніг Бібліі, выдадзеных Францыскам Скарынам у 1519 годзе. З іх апісання ў 1776 Ёганам Бакмейсцерам пачынаецца гісторыя паэкзэмплярнага апісання выданняў Скарыны.

У 1829 годзе Павел Строеў набыў канвалют з васьмі пражскіх выданняў Скарыны, які быў перададзены бібліятэцы, аднак да нашага часу ён не захаваўся. У 1842 годзе бібліятэка атрымала канвалют з калекцыі маскоўскага кнігагандлёўца Аляксандра Шыраева, у якім змяшчаліся Кніга суддзяў, Кніга Ісуса Навіна і Кніга Эклезіяста, а таксама віленскі Псалтыр з “Малой падарожнай кніжкі”. У 1902 годзе вядомы расійскі лінгвіст Ізмаіл Сразнеўскі набыў для бібліятэкі канвалют, у які ўваходзілі Кніга Ісуса Навіна, Кніга суддзяў, Кніга Руфі і Чацвёртая Кніга Царстваў. Паступленні працягваліся і ў савецкі час. У выніку сёння ў Бібліятэцы Расійскай акадэміі навук захоўваецца 22 выданні Францыска Скарыны, прычым 21 з іх — пражскае выданне.

Другой не менш значнай паводле сваіх збораў з’яўляецца Расійская нацыянальная бібліятэка, якая сёння з’яўляецца адной з найбуйнейшых бібліятэк свету, другой па велічыні фондаў у Расійскай Федэрацыі.



*Тытульны аркуш Кнігі суддзяў з фондаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі*



*Расфарбаваны тытульны аркуш Кнігі Іова з фондаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі*



*Фрагмент тытульнага аркуша Кнігі Другі Закон з фондаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі*

У фондах бібліятэкі захоўваюцца ўнікальныя выданні і больш за 400 000 рукапісаў. Гэта адзіная бібліятэка ў свеце, якая мае ў сваіх зборах усе выданні Францыска Скарыны. Прычым большасць з іх захоўваецца ў некалькіх экзэмплярах, часам у трох ці чатырох. Агульная колькасць выданняў Скарыны ў фондах Расійскай нацыянальнай бібліятэкі — 90 экзэмпляраў, у тым ліку 51 пражскае і 39 віленскіх выданняў.

Гэта вялікая калекцыя пачала фарміравацца яшчэ да афіцыйнага адкрыцця бібліятэкі. У 1804 годзе вядомы бібліяфіл Пётр Дуброўскі прадаў сваю калекцыю каштоўных друкаваных і рукапісных кніг імператару Аляксандру І. У склад гэтай калекцыі ўваходзілі Скарынавы Кніга Іова, Кніга Эклезіяста, Кніга Прамудрасці Божай, Кніга Ісуса Сірахава, Кніга Прытчаў Саламона і Кніга Песня песняў.

Вельмі каштоўным набыццём для Расійскай нацыянальнай бібліятэкі стала атрыманне ў 1830 годзе калекцыі графа Фёдара Талстога. Яна ўключала 22 пражскія выданні ў сямі пераплётах, "Апостал", канвалют з дзесяццю віленскімі акафістамі і канонамі. Шэраг выданняў Скарыны трапіў у бібліятэку разам з кнігазборамі гісторыка Міхаіла Пагодзіна (1852) і бібліёграфа Івана Каратаева (1861). У 1904 годзе ў бібліятэку трапіў адзін з двух вядомых у свеце Псалтыр 1517 года — першая беларуская друкаваная кніга.

Сёння ў зборах бібліятэкі захоўваецца 90 выданняў Францыска Скарыны, у тым ліку 51 экзэмпляр з надрукаваных у Празе і 39 — у Вільні.

У фондах Уладзіміра-Суздальскага музея-запаведніка захоўваецца Пяцікніжжа Майсеева — першыя пяць кніг Бібліі. Уладзімірскі канвалют апраўлены ў пераплёт з дошак, пакрытых цёмна-вішнёвым аксамітам.

Яшчэ адзін падобны канвалют з пяці кніг Майсеевых захоўваецца сёння ў Музейным комплексе Цюменскай вобласці (Цюменскім абласным краязнаўчым музеі).

Некаторыя расійскія ўніверсітэты таксама валодаюць багатымі кнігазборамі, у якіх захоўваюцца беларускія першадрукі. Галоўнай расійскай вышэйшай навучальнай установай з'яўляецца Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя М.В. Ламаносава. Яго бібліятэка лічыцца адной з найбольш багатых у Расіі. У Навуковай бібліятэцы Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта зберагаюцца 7 выданняў Францыска Скарыны: чатыры Кнігі Царстваў, Кніга Ісуса Навіна, Кніга суддзяў і Кніга Руфі. Яны паступілі ў фонды бібліятэкі ў 1830 — 1860-я гады. Згубленыя ў час выкарыстання старонкі былі адноўлены ўручную ў 1775—1776 гадах. Для зручнасці выкарыстання іх сабралі разам у адзін пераплёт. Гэта было зроблена ў канцы 18 — пачатку 19 стагоддзя.

Яшчэ два канвалюты пражскіх выданняў Францыска Скарыны захоўваюцца ў Саратаўскай занальнай навуковай бібліятэцы імя В.А. Артысевіч Саратаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М.Г. Чарнышэўскага. Гэта Кніга Ісуса Навіна, Першая Кніга Царстваў і Кніга Песня песняў.

Ёсць выданні Францыска Скарыны і яшчэ ў адной рэгіянальнай універсітэцкай бібліятэцы — у Навуковай бібліятэцы імя М.І. Лабачэўскага Казанскага федэральнага ўніверсітэта. Там захоўваюцца чатыры Кнігі Царстваў, якія некаторыя даследчыкі называюць адным выданнем, а іншыя — чатырма асобнымі.

Спадчына беларускага першадрукара ў наш час зберагаецца ў многіх краінах свету. Кнігі Францыска Скарыны захоўваюцца ў фондах бібліятэк і музеяў Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Германіі, Чэхіі, Даніі, ЗША і Вялікабрытаніі. Але самае галоўнае — духоўная спадчына Францыска Скарыны з'яўляецца нацыянальным скарбам, найвялікшай каштоўнасцю беларускага народа. Імя нашага асветніка стала легендарным. Яму прысвечаны шматлікія творы мастацтва. Ён стаў героем многіх літаратурных і музычных твораў. Яго імя носяць многія бібліятэкі, школы, гімназіі, універсітэт і іншыя ўстановы. У многіх гарадах Беларусі і шэрагу замежных краін яго імем названы вуліцы, праспекты, завулкі, плошчы. Існуе нават набярэжная імя Францыска Скарыны. Шмат дзе ўсталяваны помнікі і мемарыяльныя дошкі ў гонар асветніка. Яго ведае кожны беларускі школьнік, бо яго вобраз абавязкова прысутнічае на старонках беларускіх падручнікаў. У яго гонар названы вышэйшыя дзяржаўныя ўзнагароды нашай краіны — ордэн і медаль імя Францыска Скарыны.





го чинить намъ Премудрость, онаже токмо ѿ са 
мого г(оспо)да бога дана бываеть. Во второйже части
сихъ книхъ приводить насъ къ познанию Премудро
сти б(о)жиеи путемъ прикладным. Поведаючи при
клады с(вя)тыхъ отецъ, почевши ѿ Адама даже и до
Мойсея и людей тыхъ которыежъ онъ вывелъ былъ
изъ Египта. Яко много добраго и великиа чудеса
учинилъ есть имъ богъ премудростию своею.
И ѿводить насъ ѿ идолопоклонениа поганскаго, и при
водить къ познанию сотворителя бога, презъ речи
видомые сотворение ѿ него. Теже о похвале чес
тнаго и животворящего кр(е)ста, о справедливости бо
жиеи, о великости судеб его, о различныхъ мукахъ
людей грешныхъ. И о иныхъ многихъ дивныхъ и ве
ликихъ божиихъ щедротахъ и милостяхъ, еже чинилъ е(сть)
избраннымъ своимъ. Такоже о язвахъ и о помъ
сте и о погибели злыхъ, яже допущалъ есть на нихъ
грехъ ради ихъ, якоже чтучи в сей книзе знайдеши :~

Конецъ Предсловиа въ книгу

Премудрости :~

Божиеи :~

:~

БОЖИЯ :~



Книга рекомая премудрость божия починяетсѧ • вней же ясне пишеть о при шествии и о въчеловечении господа нашего Іс Хрта • а имать в собе главъ .ді. :~

глава .а. :~

О справедливости абы есмо возлюбили ем, и въ добродетели поискали Гда бога, о духу стом о отдалении от насмевании и о роптании :~



Любите справедливость вы иже судите землю • Смышляйте о Гдѣ богу в добро те, и въ простости срдца согледайте его Яко знайденъ бываеть от тыхъ они же не искушають его, и являетсѧ тымъ

# Змест







Даведачнае выданне

Беларуская дзіцячая энцыклапедыя

**Суша** Аляксандр Аляксандравіч

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

У трох частках
Частка 3

## Чалавек-легенда

*Пры падрыхтоўцы выдання выкарыстаны фотаздымкі аўтара і матэрыялы з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*

Навуковы рэдактар Л.У. Языковіч

Мастацкае афармленне: П.В. Баранаў

Камп'ютарная вёрстка: Д.В. Гарэлікаў

Карэктары: І.М. Гудава, С.М. Несцярэнка, В.М. Чудакова

Падпісана да друку 24.08.2016.
Фармат 84×108 1/16 . Папера мелаваная.
Друк афсетны. Гарнітура Minion Pro.
Ум. друк. арк. 11,76. Ул. выд. арк. 9,56.
Тыраж 1500 экз. Заказ 834.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/1 ад 08.07.2013.
Зав. Калініна, 16, 220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

